ІГАР ПРАКАПОВІЧ • ВАДЗІМ ШЫШКО

# 1812

## ВАЙНА НА ПАСТАЎШЧЫНЕ

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 94(476.5)“1812”
ББК 63.3(4Беи)-47
П69

Рэцэнзент
*кандыдат гістарычных навук* К. А. Цвірка

**Пракаповіч, І.**
**П69** 1812. Вайна на Пастаўшчыне / Ігар Пракаповіч, Вадзім Шышко. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 76 с.
ISBN 978-985-7057-50-4.

У кнізе разглядаюцца малавядомыя старонкі вайны 1812 года на Пастаўшчыне, прасочваецца рух войск, аналізуюцца адносіны розных слаёў насельніцтва да гэтай вайны, падаюцца легенды і паданні, звязаныя з падзеямі таго часу.
Выданне будзе карысным для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

**УДК 94(476.5)“1812”**
**ББК 63.3(4Беи)-47**

**ISBN 978-985-7057-50-4**

# ПАМЯТКА ВАЙНЫ 1812 ГОДА



*Павел Пушчын*

Увазе чытачоў прапануюцца ўрыўкі з дзённіка Паўла Пушчына 1812–1814 гадоў, якія датычацца Пастаўшчыны і памежных раёнаў. Дакумент пераносіць нас амаль на 200 гадоў назад у час, калі французскія войскі Напалеона ўжо былі ў Польшчы і рыхтаваліся перайсці праз Нёман, каб уступіць на тэрыторыю Расійскай імперыі. Насустрач Банапарту рушыла руская армія, у складзе якой быў і камандзір 9-й роты капітан Павел Сяргеевіч Пушчын, чалавек, які пакінуў запісы пра тую ваенную кампанію. Што вядома пра яго?

Павел Пушчын нарадзіўся ў чэрвені 1785 года ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і обер-пракурора, сапраўднага стацкага саветніка Сяргея Іванавіча Пушчына. Выхоўваўся ў Пажскім корпусе, потым служыў у Сямёнаўскім палку. Удзельнічаў у войнах 1805–1807 гадоў, бліскуча праявіў сябе ў бітве пры Аўстэрліцы. Перад вайной 1812 года меў чын капітана і камандаваў ротай. Прайшоў усю вайну. Вызначыўся пад Барадзіно, за што быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 4 ступені з бантам. Удзельнічаў у бітвах каля Таруціна, Малаяраслаўца, Люцэна, Баўцэна, Лейпцыга, Парыжа. За мужнасць у бітве пад Кульмам узнагароджаны залатой шпагай. Пасля вайны камандаваў спачатку Ахоцкім пяхотным палком, а потым — брыгадай у 16 дывізіі. У 1821 годзе атрымаў званне генерал-маёра. У Кішынёве заснаваў масонскую ложу «Авідзій», членам якой быў і вядомы рускі паэт Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, які напісаў верш «Генералу Пушчыну». У сувязі са справай дзекабрыста У. Раеўскага Паўла Пушчына звольнілі са службы і адправілі ў адстаўку. Спачатку ён жыў у сваім маёнтку Жадрыцы Пскоўскай губерні, потым пераехаў у Адэсу, дзе і памёр у 1865 годзе.

Рота, якой камандаваў П. Пушчын у 1812 годзе, рухалася з Санкт-Пецярбурга праз паўночную Беларусь на Пастаўшчыну, дзе і спынілася амаль на два месяцы. На жаль, аўтар не дае падрабязнага апісання мясцін, вёсак, людзей, а абмяжоўваецца кароткімі заўвагамі і каментарыямі. Тым не менш, дзённік дае магчымасць уявіць некаторыя асаблівасці побыту жыхароў нашай мясцовасці ў той далёкі час, тым больш што іншых крыніц такога кшталту па вайне 1812 года на нашай тэрыторыі пакуль не выяўлена.

## ДЗЁННІК ПАЎЛА ПУШЧЫНА. 1912–1814

*Урыўкі**

### ПЕРШЫЯ ДНІ ПАХОДУ

*9 сакавіка. Субота.*

Мы выступілі з С.-Пецярбурга. Я быў камандзірам 9-й роты ў складзе 165 радавых і 16 унтэр-афіцэраў. У нашай роце былі афіцэры: Чычэрын, 2 князі Трубяцкія (Сяргей і Аляксандр), першы за 14 снежня сасланы ў Сібір, а Чычэрын ранены пад Кульмом і праз некалькі дзён памёр у Празе, і я. Акрамя таго, да нас былі прыкамандзіраваныя 2 падпрапаршчыкі: Зотаў і князь Дадзіян.




Як толькі мы прыбылі ў Пулкава, туды таксама прыехалі і мае сёстры з пані Б., і дзякуючы гэтаму я правёў гэты апошні вечар разам з дарагой для мяне роднай сям'ёй.

[…]

* Пераклад на беларускую мову і каментарыі Ігара Пракаповіча

*21 красавіка. Нядзеля.*

Вялікдзень. У гэтыя дні ў Польшчы толькі ядуць. Стол пастаянна накрыты, садзяцца за стол у звычайны час толькі для таго, каб з'есці трохі супу. Я накіраваўся да палкоўніка Пісарава, у якога было некалькі жанчын. Мы даведаліся, што паслязаўтра выступаем у Камай — мястэчка, якое размешчана каля Свянцян, бліжэй да Вільні.

*27 красавіка. Субота.*

Вёска Буцэвічы, у 4-х вярстах ад штаба палка, які размясціўся ў м[ястэчку] Камай. Гэта наша новае месца стаянкі. Пераход быў вельмі стомны і непрыемны з прычыны дрэннага надвор'я. Размясціліся мы вельмі брыдотна, вёска настолькі бедная, што нічога нельга дастаць. Фуражу няма.

*28 красавіка. Нядзеля.*

Раніцай я наведаў палкоўніка Пісарава. Ён быў заняты пераменай кватэры, перабіраўся ў хату да нейкага памешчыка Холмскага*. Я яго праводзіў і вярнуўся палуднаваць у Буцэвічы. Увечар стала вядома, што Вялікі Князь прызначыў нам агляд.

*29 красавіка. Панядзелак.*

Раніцай я зноў адправіўся конна да Пісарава для перамоў наконт агляду, але не заспеў яго дома і сам застаўся абедаць у Холмскага. Вярнуўся да сабе з Храпавіцкім**, які перадаў мне, што да

---

* Верагодна, аўтар недакладна перадае прозвішча памешчыка. На Пастаўшчыне жылі Хомскія. Браты Адольф і Густаў у 1830 годзе валодалі маёнткам у Кубарках, актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні 1830–1831 гадоў супраць Расійскай імперыі.

** Вельмі верагодна, што гэта той самы афіцэр Храпавіцкі, які ўдзельнічаў пазней у падаўленні паўстання 1830-31 гадоў каля Лынтупаў. У сваім рапарце Храпавіцкі паведамляў: «У ваколіцах Лынтуп жыхары або ўжо злучыліся з Барткевічам [кіраўніком паўстання], або засталіся ў сваіх маёнтках і з'яўляюцца больш схільнымі да паўстання, чым прыхільнікамі рускага ўрада».

5-ці гадзін запатрабавалі ўсіх ротных камандзіраў у Камай. Баючыся спазніцца, я пасьпяшаўся да сябе, апрануў шалік і адправіўся ў Камай. Тут я даведаўся, што адбылася памылка: патрабавалі батальённых камандзіраў, але я скарыстаўся выпадкам і папрасіў дазволу перамяніць месца стаянкі, што і атрымаў.

Мы ўсёй кампаніяй аглядалі мясцовасць вакол Буцэвічаў. Спачатку мы накіраваліся ў Дварчаны. Хата там была настолькі брудная, што мы не рашыліся заняць яе. Аляксандр Трубяцкі і я адправіліся пешкі за 2 вярсты ў гаспадскі дв[ор] Загач агледзець іншую хату, якая хоць і была не заселена, але мела перавагу перад іншымі. Калі мы вярнуліся ў Дварчаны даць справаздачу аб нашым адкрыцці, ужо шарэла, а наша прыслуга яшчэ не прыбыла. Жонка арандатара ў Дварчанах нецярпліва чакала нашага сыходу, яна пакутавала столькі ж, колькі і мы ад гэтай праналокі. Яе муж нас частаваў, цалкам падзяляючы жаданне сваёй дарагой паловы. Гэта гісторыя зацягнулася да ночы, пакуль не сабраліся ўсе нашы, і толькі тады мы адправіліся ў Загач. Але, божа, як нам тут было кепска — ні шкла ў вокнах, ні крэслаў, ні стала.



*Возера Загач (Загацце)*

*30 красавіка. Аўторак.*

З прычыны ўчорашняй стомленасці я моцна спаў. Але сёння раніцай мы пераканаліся, што ўладкаваліся тут горш, чым дзе-небудзь. Мы зноў з Аляксандрам Трубяцкім адправіліся на пошукі да суседняга шляхціца, але яго жыллё было вельмі беднае. У яго мелася 10 душ дзяцей, ды нас яшчэ 5, не было магчымасці змясціц-


*Камайскі касцёл*

ца. Бедны чалавек вельмі баяўся, што мы выраШЫМ перасяліцца да яго, і абяцаў даставіць нам у Загач усё неабходнае. Ён стрымаў слова, і такім чынам мы нарэшце ўладкаваліся. Учора я бачыў у Камаі Царкву*, якую пабудаваў Гедымін 397 гадоў таму назад. Сцены цагляныя таўшчыні незвычайнай. Вылучаецца прыбудоўка, узведзеная 40 гадоў назад адной графіняй Сілістроўскай. Абраз св. Іаана і партрэт Гедыміна захаваліся ад самага заснавання. Абраз знаходзіцца у лепшым стане, чым партрэт. Падзямеллі служаць магіламі для роду графаў Сілістроўскіх, можна бачыць нават косці памерлых.

*1 мая. Серада.*

Надвор'е цудоўнае. Я прысвяціў цэлы дзень шпацыру. Мясцовасць вельмі прыгожая. Відаць мястэчка Паставы — па той бок возера.

---

* Верагодна, у запісах згадваецца Камайскі касцёл, які пабудаваны (па афіцыйных звестках) у 1603–1606 гадах. Аўтар жа называе 1415 год, а касцёл — царквой. Гедымін не мог будаваць гэты храм, бо памёр у 1341 годзе, але пры Гедыміне была ўтворана незалежная ад Маскоўскай Русі асобная літоўска-беларуская праваслаўная метраполія і таму, магчыма, першы камайскі храм быў узведзены менавіта за 397 гадоў да вайны з Напалеонам. Пазней звесткі пераблыталіся і ператварыліся ў легенду.

Графы Сулістроўскія валодалі ў XIX стагоддзі маёнткам Каралінова і мелі цесную повязь з касцёлам у Камаях. Мастак А. Ромэр, які быў прымаком у караліноўскім маёнтку, таксама браў удзел у работах па аздабленні інтэр'ера храма.

*2 мая. Чацвер.*

Я абышоў кожны ўзвод маёй роты; яны знаходзіліся ў вёсках Дашкі, Драбешы, Мацуты і Буцэвічы. Чычэрын быў у Мацуце, я зайшоў да яго на хвілінку. У Буцэвічах я застаўся незадаволены, бо заспеў бязладдзе. Затым зайшоў да Пісарава, але яго не было дома. Я застаўся абедаць з афіцэрамі 8-й роты, якія кватаравалі з ім, і чакаў яго вяртання. На заўтра меўся быць агляд, і мне неабходна было з ім перамовіцца. Празмерны педантызм мяне засмуціў, але дома я заспеў чалавека цалкам шчаслівага — гэта князь Дадзіян. Яго слуга, любімы Васіль, прыбыў, і ён яшчэ здалёку спяшаўся паведаміць мне пра гэта.

*3 мая. Пятніца.*

Пацукі нам перашкаджалі спаць усю ноч. Я ўстаў а 5-й гадзіне і ў хуткім часе ўвайшоў з ротай у мястэчка Камай, дзе камандзір Крыднер павінен быў рабіць агляд. Ён моцна да мяне прыдзіраўся, таму я вярнуўся ў Загач у вельмі дрэнным настроі.

*5 мая. Нядзеля.*

Трубяцкія адправіліся ў Свянцяны, а я ў Паставы. У мястэчку ёсць школа на 100 вучняў. Ёсць квадратны пляц, які забудаваны крамамі. Гандаль, здаецца, не бойкі, але загадчык вучылішча мне заявіў, што 9 числа будзе кірмаш і тады я ўбачу, як усё ажывіцца. Ён запрасіў мяне на гэты дзень абедаць. Я вярнуўся дахаты абедаць і трохі пазней атрымаў загад уначы выступіць. Нам меўся быць яшчэ адзін агляд.




*Плошча ў Паставах*

*6 мая. Панядзелак.*

Лукашэўшчызна. Я выступіў а 2-й гадзіне ночы і а 9-й спыніўся на вельмі цесных кватэрах.

*8 мая. Серада.*

Я быў дзяжурны і, адправіўшыся з рапартам, даведаўся, што Вялікі Князь яшчэ не даў нам ніякага загаду наконт агляду, але што наш камандзір нас перамясціў для таго, каб быць напагатове, калі будзе дадзены загад. Ужо трэці дзень наша становішча вельмі дрэннае, мы пазбаўлены ўсяго.

*9 мая. Чацвер.*

Мацковічы, памешчыцкая хата. Нас размясцілі трохі лепш, недалёка ад мястэчка Лынтупы, дзе меўся быць агляд Вялікага Князя. Штаб палка застаўся ў Камаі. Выступаючы з Лукашэўшчызны, я заўважыў, што ў мяне быў дэзерцір. Гэта мяне вельмі знервавала. Арандатарам в. Мацковічы быў хтосьці Буйневіч, яго сястра была б неблагая сабой, калі б не рыжыя валасы.

*10 мая. Пятніца.*

Я кепска спаў. Надвор'е было агіднае. Мне нядужылася.

*11 мая. Субота.*

Уладальнік вёскі Мацковічы Чаховіч* нанёс мне візіт. Я атрымаў ліст ад пані Б. і паслаў Луку ў Свянцяны здаць мае лісты на пошту. Мне невядома месца стаянкі Літоўскага палка, таму я пазбаўлены магчымасці пабачыцца з маім стрыечным братам Мікалаем, якога я не бачыў з самога Пецярбурга.

---

* Б. Чаховіч з'яўляўся адным з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гадоў на Пастаўшчыне.

*12 мая. Нядзеля.*

З'явіўся да нас Бібікаў, каб правесці з намі вечар, і застаўся начаваць, што было нечакана. Ён надакучлівы да немагчымасці.

*13 мая. Панядзелак.*

Ліст, атрыманы мной сёння ад пані Б., крыху супакоіў мяне і аднавіў раўнавагу ў душы, парушаную прысутнасцю Бібікава. Атрыманы загад: заўтра выступіць ізноў у Лукашэўшчызну. 15 мая павінны былі адбыцца манеўры ў Лынтупах у прысутнасці Вялікага Князя.

*14 мая. Аўторак.*

Лукашэўшчызна. Пераход быў не цяжкі, але вельмі непрыемны з прычыны кепскага надвор'я. Мы выступілі а 4-й гадзіне раніцы пры моцным ветры і снезе. Нашы кватэры былі не вельмі зручныя.

*15 мая. Серада.*

А 5-й гадзіне мы адправіліся ў Лынтупы. Да прыбыцця Вялікага Князя выступілі праз лес і разгарнуліся на раўніне паміж лесам і мястэчкам. Манеўры былі вельмі ўдалыя, Вялікі Князь застаўся вельмі задаволены, ён асабіста мне пра гэта сказаў. Я жадаў бы менш пашаны, але больш адпачынку. Холад быў сабачы. Пасля манеўраў я са сваёй ротай вярнуўся ў Лукашэўшчызну; накарміў тут салдат, адправіўся зноў у Мацковічы.

*16 мая. Чацвер.*

З прычыны дарагоўлі гарбаты наша кампанія вырашыла адмовіцца ад яе. Я заняўся пабудовай барака ў нашым велічэзным Двары.

*17 мая. Пятніца.*

Мы з кн. Аляксандрам Трубяцкім былі ў Пісарава, які знаходзіўся ў Кародзіне* — маёнтку графа Сілістроўскага. Па дарозе, праязджаючы праз Камай, мы сустрэлі палкоўніка Крыднера, які

* Кародзіна, верагодна, скажоная назва маёнтка Сулістроўскіх Каралінова.



*Сядзіба Каралінова*

на гэты раз паставіўся да нас вельмі добразычліва. Шлях ад мястэчка Камай да Кародзіны цудоўны, ляжыць праз бярозавы лес. Мястэчка Камай размешчана на ўзвышэнні, і таму яго добра відаць. Афіцэры 3-й грэнадзёрскай роты размясціліся разам з палкоўнікам Пісаравым, і мы абедалі ўсе разам вельмі весела. Нелюдзімы палкоўнік Крыднер таксама прыйшоў да нас, але наступіла змярканне, трэба было думаць пра вяртанне ў Мацковічы.

*19 мая. Нядзеля.*

Надвор'е трохі палепшылася. Я адправіўся ў мястэчка Камай. Калі наблізіўся, працэсія выходзіла ўжо з царквы, і я зайшоў да Жадоўскага. Ён павёў мяне ў катакомбы, якія знаходзіліся пад дваром жылой хаты. Сутарэнні цагляныя. У сутарэннях зрэдку адтуліны, якія прапускаюць занадта мала святла для таго, каб можна было абысціся без паходняў і без правадыра. Пераконваюць, што калісьці гэтыя падзямеллі служылі турмой. Да абеду я вярнуўся дахаты. Адзін мой конь ударыў кучара ў галаву, але, на шчасце, не небяспечна, рана лёгкая.

*20 мая. Панядзелак.*

Чычэрын зайшоў да мяне сказаць, што ён прасіў палкоўніка Крыднера пасяліць мяне да яго на кватэру. Паводле яго слоў, кн. Галіцын, які там жыў, нанёс яму крыўду. У сваю чаргу кн. Галіцын прыйшоў да мяне і растлумачыў, што спрэчка зайшла з-за невада, які ён прапанаваў Чычэрыну ўзяць для таго, каб палавіць рыбу ў сваім возеры.

*21 мая. Аўторак.*

Увечар даведаліся, што праз два дні адпраўляемся ў Вільню, дзе прабудзем некалькі дзён.

*22 мая. Серада.*

Барак мой скончаны, і Пісараў прыязджаў да мяне снедаць. Учора і сёння атрымаў лісты ад сясцёр і пані Б. Усе даслалі мне цікавыя цацанкі. Іх увага мяне вельмі кранула. На вялікую маю радасць, увечары прыехаў мой стрыечны брат Мікалай. Думка аб заўтрашнім паходзе мяне вельмі гняла. На шчасце, Канстанцінава, куды мы выступілі, усяго ў 1 вярсце ад Свіры, месца стаянкі брата Мікалая, таму ён прабыў у нас да раніцы.

*23 мая. Чацвер.*

Куцькі, вёска ў 1 вярсце ад Канстанцінава, дзе знаходзіцца штаб палка. Мікалай прайшоў увесь пераход з намі пешкі і застаўся з намі начаваць, бо яго полк выступаў толькі ў нядзелю. Наш батальён знаходзіўся ў дарозе з 5 гадзін раніцы і спыніўся на агульных кватэрах у в. Куцькі. Кватэра палкоўніка Крыднера знаходзілася тут жа. Калі я ўступіў у вёску з маёй ротай, ён быў на вуліцы і паставіўся да мяне добразычліва, гэта нездарма.

*24 мая. Пятніца.*

Бабічы. Побач мястэчка Міхалішкі, дзе штаб палка. Батальён выступіў а 4-й гадзіне раніцы. Мы развіталіся з Мікалаем у надзеі, што хутка ўбачымся ў Вільні. Тры роты першага батальёна нечакана сышліся з нашым батальёнам на дарозе, і, на вялікае маё задавальненне, я ўбачыў Панюціна. Мы з ім былі сябрамі ў Пецярбургу, і з часу выхаду ў паход нам здаралася па 15 дзён не сустракацца. Сёння выйшлі на вялікую дарогу ад Свянцян на Вільню. Прайшлі сяло Страча, наколькі мне памятаецца гэта назва; дарога спускаецца да плаціны і стромка збочвае налева. Мясцовасць цудоўная. Злева цудоўны ручай, а справа стромкі абрыў, пакрыты пышным лесам.

Сонца ўставала акурат тады, калі мы падыходзілі да гэтага цудоўнага месца, і надавала яшчэ больш прыгажосці гэтаму ландшафту. Ад плаціны да нашых кватэр дарога ішла лесам. Батальён спыніўся, не даходзячы да Міхалішак, бо не пераправіўся праз Вілію, якая працякае перад мястэчкам.

[…]

*8 чэрвеня. Субота.*

Стаянка ў Міхалішках. Хадзілі глядзець царкву гэтага мястэчка, якая пабудавана 200 гадоў таму. У падзямеллі — некалькі склепаў, у адным з іх убачылі цела даўно памерлага святара, якое захавалася вельмі добра. У іншых склепах былі толькі косці і сям-там валасы.

Увечар Літоўскі полк прайшоў праз Міхалішкі, мне ўдалося пабачыцца з братам Мікалаем.

*9 чэрвеня. Нядзеля.*

Нарэйшы. Выступілі паротна а 3-й гадзіне раніцы. Пераправіліся праз Вілію. Мая рота спынілася раней за штаб палка. Мы былі вельмі здзіўлены з’яўленнем вясковай маладзіцы, якая хутка пакланілася ўсім у ногі. Нас гэта вельмі ўразіла, і мы нічога не разумелі, але хутка ўсё высветлілася: яна была нявестаю і па мясцовым звычаі павінна была пакланіцца ўсім у ногі. Салдаты таксама былі здзіўлены такім звычаем.

*10 чэрвеня. Панядзелак.*

Мацковічы. Выступілі паротна апоўначы. Штаб палка спыніўся ў Саранчанах, а мая рота размясцілася на старых кватэрах. Я прыбыў у Мацковічы. Старая гаспадыня Буйновіч вельмі ўзрадавалася ад таго, што мяне зноў бачыць, і толькі паўтарала: «Наш дарагі капітан вярнуўся».

## НА СТАРЫХ КВАТЭРАХ

*11 чэрвеня. Аўторак.*

Мыскова-на-Дзісне[?]. Цэлы дзень нічога не рабіў, толькі купаўся ў Камайскім возеры.

*12 чэрвеня. Серада.*

Адправіўся да палкоўніка Пісарава, які спыніўся ў Чаховіча. Там былі паненкі Мірскія, якія зачаравалі мяне сваёю ветлівасцю.

*13 чэрвеня. Чацвер.*

Правёў частку дня ў 8-й роце, гаварылі пра бліжэйшы паход.

*14 чэрвеня. Пятніца.*

Каля 8-й гадзіны вечара, калі я прыемна праводзіў час разам з паненкамі Мірскімі, нечакана паступіў загад выступіць паротна і ісці фарсіраваным маршам у Лынтупы. Я паспяшаўся ў Мацковічы і неадкладна выступіў з маёй ротай. Пасля паўночы прыбылі ў Лынтупы, дзе і раскінулі лагер.

## НАПАД

*15 чэрвеня. Субота.*

Наша брыгада сцягнулася праз гадзіну пасля мяне ў Лынтупы, адгэтуль мы рушылі на Свянцяны і спыніліся ад гэтага горада ў 8-мі вярстах. Французы перайшлі Нёман і накіраваліся ў Вільню. А 1-й гадзіне дня мы ўвайшлі ў Свянцяны, пачакалі трохі прыезду імператара і, прайшоўшы перад ім цырыманіяльным маршам, абышлі горад і спыніліся для адпачынку на вялікай дарозе, што ішла на Вільню, якая вяла нас да Славы.

*16 чэрвеня. Нядзеля.*

Увесь наш корпус аб'яднаўся. Камандаванне корпусам даручана вялікаму князю Канстанціну Паўлавічу. У склад корпуса ўвайшла ўся імператарская гвардыя, г. зн. адна дывізія пяхоты і адна кавалерыйская дывізія. Начальнік нашай дывізіі — генерал Ярмолаў. Разнеслася чутка, што французы ўжо ў Вільні. Я зноў пабачыўся з братам Мікалаем, а таксама бачыў Сямёнава, якога не сустракаў з самога Пецярбурга.

*17 чэрвеня. Панядзелак.*

На месцах. Гавораць, што ў Вільні была сутычка з ар'ергардам.

*18 чэрвеня. Аўторак.*

Пераход ад Свянцян у лагеры каля Даўгелішак. Выступілі а 4-й гадзіне раніцы. Ішоў дождж, праймаючы. Шлях цяжкі, мы ішлі бесперапынна на працягу 11 гадзін. У палку 40 чалавек захварэлі і адзін памёр.

*19 чэрвеня. Серада.*

На месцах. На шчасце, на працягу дня дождж ішоў перапынкамі, мы скарысталіся гэтым, каб хоць трохі прасушыць наша адзенне. Наш камандзір, палкоўнік Крыднер, сёння літаральна звар'яцеў, зрабіў нам шмат непрыемнасцяў, арыштаваў некалькіх афіцэраў за дробязі. Прывялі ў наш лагер графа Сегюра, гэта першы палонны француз.

*20 чэрвеня. Чацвер.*

У лагерах паміж ракой Дзісной і Відзамі. Наш корпус выступіў а 4/2 гадзіне раніцы. Перад выступам мой фельдфебель далажыў мне, што 3 салдаты-палякі дэзерціравалі. Пры такім камандзіры, як наш, гэта было для мяне ўдвая крыўдна, бо апроч таго, што мне асабіста было прыкрае дэзерцірства, я павінен быў чакаць шмат нараканняў ад гэтага грубага чалавека, які не прамінаў дня, каб каго-небудзь з нас не дапячы. Сёння ён пасадзіў пад арышт князя

Галіцына, цалкам неабгрунтавана. Перайшоўшы Дзісну, мы дайшлі да Відзаў. Па атрыманых звестках, французы наступаюць трыма калонамі, з якіх адна ідзе на наш правы фланг праз Вількамір.

*21 чэрвеня. Пятніца.*

На месцах. Мы чулі некалькі гарматных залпаў у ар’ергардзе. Невядома, куды накіраваўся французскі корпус, які чакалі сустрэць каля Свянцянаў.....

# РУХ ВОЙСК У ПАЧАТКУ ВАЙНЫ

10 (22) чэрвеня Напалеон абвясціў Расіі вайну, а 12 (24) чэрвеня напалеонаўская «Вялікая армія» фарсіравала Нёман у раёне Коўна і Гродна. На баку Банапарта налічвалася каля 600 тысяч жаўнераў з розных краін Еўропы. Былі там палякі, італьянцы, галандцы, немцы, аўстрыйцы і прадстаўнікі іншых народаў. Галоўную ўдарную сілу складалі французы пад кіраўніцтвам французскіх палкаводцаў: Мюрата, Багарнэ, Жэрома Банапарта, Нея, Удзіно, Даву і іншых.

1-я руская армія (127 тыс.) генерала Барклая дэ Толі (штаб у Вільні) і 2-я руская армія (45 тыс.) генерала П. Баграціёна (штаб у Ваўкавыску) адступалі ад заходніх граніц з мэтай злучэння. Галоўны ўдар французаў быў скіраваны на Вільню. Барклай дэ Толі, бачачы значную перавагу праціўніка, не рашыўся даваць бой і адводзіў войскі да Свянцянаў. 16 (28) чэрвеня французы занялі Вільню.

Аднак і каля Свянцянаў ваеннае становішча рускіх не палепшала. Супраць 1-й рускай арміі ішла армія маршала Мюрата з дзвюма пяхотнымі дывізіямі корпуса Даву і кавалерыйскім корпусам Манбрэна, маючы ў рэзерве корпус маршала Нея. Сілы для бітвы былі няроўныя, і пасля некалькіх сутычак з праціўнікам Барклай дэ Толі аддаў загад на адступленне. 20 чэрвеня (2 ліпеня) рускія войскі рушылі на паўночны ўсход у напрамку мястэчка Дрыса (сучасны Верхнядзвінск), дзе на беразе




*Рух войск у пачатку вайны*

Дзвіны знаходзіўся ўмацаваны лагер. Ад Свянцянаў на Відзы, Опсу, Браслаў ішлі калоны рускіх пяхотных карпусоў пад кіраўніцтвам Багавута, Тучкова, Шувалава, а таксама гвардыя і рэзервовая кавалерыя. Асноўныя групы войск, верагодна, рухаліся па тэрыторыі сучаснай Літвы, асобныя ж атрады, у прыватнасці, пад камандаваннем Дорахава, праходзілі праз Паставы на Казяны.




*Рух напалеонаўскай гвардыі, карпусоў Багарнэ і Сен-Сіра праз Пастаўшчыну*

Тым часам на злучэнне з 1-й арміяй ад Ліды імкліва прасоўваўся 6-ты пяхотны корпус пад камандаваннем Дохтурава, які ўключаў 2 дывізіі (7-ю Канцэвіча і 24-ю Ліхачова) і Сумскі гусарскі полк конніцы. Перад ім навісла пагроза быць адрэзаным ад асноўных войск, таму вайскоўцы рабілі гераічныя высілкі для таго, каб пазбегнуць акружэння. Па слядах рускіх хутка рухаўся французскі кавалерыйскі корпус пад камандаваннем Нансуці. Усё ж Дохтураву ўдалося апярэдзіць праціўніка. Праз Мядзельшчыну (20 чэрвеня быў у Кабыльніку) корпус выйшаў на Пастаўшчыну і 21 чэрвеня (3 ліпеня) быў у Паставах. На наступны дзень вайскоўцы ўжо перапраўляліся на другі бераг Дзісны ў Казяны і амаль даганялі 1-ю рускую армію.

23 чэрвеня (5 ліпеня) знакамітая 1-я дывізія генерала Марана, якая ўваходзіла ў склад 3-га корпуса маршала Даву, заняла Паставы. Тады ж, верагодна, у Паставы ўвайшоў і кавалерыйскі корпус Нансуці. Такім чынам, тагачасныя жыхары мястэчка за некалькі

дзён пабачылі вялікую колькасць узброеных жаўнераў рускай і французскай армій. Праход войск суправаджаўся паборамі мясцовага насельніцтва, рэквізіцыямі, якія праводзіліся для таго, каб пракарміць шматлікія войскі.

Праз колькі дзён, 1 (12) ліпеня праз Міхалішкі, Кабыльнік і Пастаўшчыну на Глыбокае пачала рухацца французская гвардыя, 4-ты корпус генерала Багарнэ і 6-ты корпус генерала Сен-Сіра. Іх марш праходзіў па старадаўнім Полацкім шляху, які на той час, напэўна, утрымліваўся ў добрым стане. Гэты шлях на Пастаўшчыне называецца шляхам Баторыя – Напалеона. Ён праходзіў праз Міхалі, Пятроўшчыну, Манькавічы, Савічы, Жалязоўшчыну, Цешалава, Лучай, Дунілавічы, Норыцу. Такі напрамак руху войск быў выбраны Напалеонам з прычыны таго, што руская армія пакінула Дрысенскі лагер і накіравалася ўздоўж Дзвіны ў бок Полацка і Віцебска. Войскі ішлі паходным маршам, не сустракаючы супраціўлення, таму што рускіх армій перад імі не было.

# БОЙ ПАМІЖ ФРАНЦУЗСКІМІ І РУСКІМІ ВОЙСКАМІ КАЛЯ РАКІ ДЗІСНА ПЕРАД КАЗЯНАМІ

*19 чэрвеня (1 ліпеня). Серада.*

1-я Заходняя армія. Часці 3, 4, 6 пяхотных карпусоў і ар'ергарда ген.-маёра Дорахава.

Атрад генерала графа Палена, рухаючыся ў гор. Дрысу праз мястэчка Казяны, пакінуў каля гэтага мястэчка на перадавых (вартавых) пастах шэсць эскадронаў Марыупальскага гусарскага палка пад начальствам ген.-ад'ютанта барона Вінцэнгеродэ, пры якім была, у якасці асабістага канвою, каманда 2-га Бугскага казачага палка. Французскі кавалерыйскі атрад у складзе 28 эскадронаў і 6 конных гармат напаў уначы знянацку на гэтыя перадавыя (вартавыя) пасты. Ген.-ад'ютант барон Вінцэнгеродэ і палкавы камандзір палкоўнік князь Вадбольскі з двума эскадронамі марыупальцаў і з камандай 2-га Бугскага казачага палка былі адкінуты ў бок і толькі на трэці дзень з вялікімі намаганнямі змаглі далучыцца да сваіх, а астатнія чатыры эскадроны марыупальскіх гусар былі змяты, раздроблены і праследаваліся французамі датуль, пакуль ім на дапамогу не падаспеў палкоўнік барон Крэйц са сваім Сібірскім драгунскім палком і з далучанымі да яго двума эскадронамі Марыупальскага палка.



*Рака Дзісна каля Казянаў*

Палкоўнік барон Крэйц спыніў націск непрыяцеля і сабраў раздробленыя чатыры эскадроны Марыупальскага гусарскага

палка. Паручнік Марыупальскага гусарскага палка Фігнер (брат вядомага партызана), накіраваны з эскадронам гэтага палка для рэкагнасцыроўкі непрыяцеля, адкрыў яго па той бок р. Дзісны і зацята затрымліваў пераправу праз гэту раку непрыяцеля.

У гэтай сутычцы быў цяжка паранены паручнік Фігнер, выбылі з шэрагаў 40 ніжніх чыноў Марыупальскага гусарскага палка.

*З кнігі М. И. Богдановичъ «Исторія Отечественной войны 1812 г»., I, 153*

# МАНАРХІ І ПАЛКАВОДЦЫ НА АБСЯГАХ НАШАГА КРАЮ Ў ВАЙНЕ 1812 ГОДА

## ВЯЛІКАЯ АРМІЯ

### Імператар Напалеон



*Напалеон I*

Пасля захопу французамі сталіцы ВКЛ Напалеон некаторы час знаходзіўся ў Вільні. Тут ён вырашаў пытанні арганізацыі кіравання новымі землямі, забеспячэння войска прадуктамі і фуражом. Гісторыкі называюць і яшчэ адну прычыну затрымкі: праблемы з рухам абозаў. Справа ў тым, што надвор'е ў той час дужа сапсавалася, пайшлі ліўневыя дажджы, налялалі буры, што зрабіла дарогі амаль непраходнымі. Прыводзяцца звесткі, што віхуры былі такія моцныя, што за адну ноч да 10000 коней загінула. Правіянт, які меўся ў жаўнераў, быў з'едзены. З гэтай прычыны Напалеонам былі створаны спецыяльныя каманды, якія займаліся зборам прадуктаў і фуражу сярод мясцовага насельніцтва. Вядома, мірна гэта не абыходзілася.

Паводле загаду Банапарта 1 ліпеня на Глыбокае праз Міхалішкі, Кабыльнік і Пастаўшчыну рушыла гвардыя і карпусы Багарнэ і Сен-Сіра. Сам імператар меркаваў накіравацца з Вільні напрасткі ў Глыбокае, дзе мусілі сканцэнтравацца яго войскі, але перад самым ад'ездам атрымаў паведамленне, што рускі атрад Якава Кульнева з корпуса Вітгенштэйна пераправіўся праз Дзвіну і разбіў кавалерыйскую брыгаду генерала Сен-Жанье. Страты французаў склалі каля 300 чалавек. Сам Сен-Жанье патрапіў у палон.

Напалеон адразу разаслаў загады карпусам, якія мінавалі Свянцяны, не ісці далей, а іншым войскам, якія знаходзіліся пад Вільняй,

рухацца як мага хутчэй. Імператар палічыў, што рускія пайшлі ў наступленне, і зрабіў захады сабраць войскі каля Свянцянаў, каб там сустрэць праціўніка.

4 (16) ліпеня а 22-й гадзіне Напалеон пакінуў Вільню і накіраваўся ў Свянцяны. Ехаў ён усю ноч і раніцай быў у мястэчку. Прыбыўшы ў Свянцяны, Банапарт спыніўся ў доме скарбніка Камінскага. На аўдыенцыю да імператара прыходзілі графіні Мастоўская і Пшаздзецкая. Таксама наведалася да яго і шляхцянка Заблоцкая, якая паскардзілася, што французскія войскі яе зусім абрабавалі. Напалеон загадаў выдаць ёй сто луідораў.

У Свянцянах Банапарт даведаўся, што рускія войскі пачалі адступленне ў бок Полацка і Віцебска, і таму даў загад сваім войскам рухацца на Глыбокае.

Напалеон прабыў у Свянцянах цэлы дзень, а ў 22 гадзіны таксама выехаў на Глыбокае. Сказаць дакладна, праз якія паселішчы Пастаўшчыны пралягаў яго шлях, немагчыма. У літаратуры называецца мястэчка Паставы, легенда гаворыць пра тое, што ён быў у Манькавічах. Калі прааналізаваць карты, то можна зрабіць выснову, што шлях мог праходзіць ад Свянцянаў на Лынтупы, Камаі, Паставы, Коўзаны. У Лучаі дарога выводзіла на Полацкі тракт і вяла далей праз Дунілавічы, Норыцу, Ласіцу ў Глыбокае. Напалеон, яго світа і абозы рухаліся даволі хутка. У сваіх мемуарах А. Каленкур паведамляе: «Изумительный марш от Вильно до Глубокого доказал, что при хорошем уходе лошади могут совершать поразительные переходы, так как они, верховые и вьючные, нагруженные большими тюками, выйдя в шесть часов утра из Вильно, пришли в Свенцяны в восемь часов вечера, а назавтра в полдень были в Глубоком, сделав 48 лье. Упряжные лошади сделали переход из пункта, находящегося в шести лье от Свенцян, в 18 часов, причем ни одна из них не заболела» (1 сухапутнае лье = 4445 метраў). Імператар быў у Глыбокім 6 (18) ліпеня а палове на першую, правёўшы ў дарозе чатырнаццаць з паловай гадзін. Адлегласць паміж Свянцянамі і Глыбокім складае 106 кіламетраў. Такім

чынам, можна вылічыць, што сярэдняя хуткасць руху Напалеона была 7,3 кіламетры ў гадзіну. З гэтага вынікае, што ў Лынтупах ён быў каля поўначы, у Камаях — каля 2 гадзін ночы, у Паставах — у 4.40, у Лучаі — каля 7, у Дунілавічах — каля 8, у Норыцы — каля 9, у Ласіцы — каля палові дзесятай. Узнікае пытанне: ці наведваў Напалеон Асінагарадок, дзе, паводле легенды, ён спыняўся і, захоплены мясцовымі краявідамі, перайменаваў суседнюю вёску ў Парыж? Напэўна, не. Асінагарадок ляжыць на адлегласці каля 8 кіламетраў на поўнач ад Ласіцы, і, каб туды патрапіць, трэба было збочваць з Полацкага тракту, губляць больш за 2 гадзіны часу. Што магло прывабіць імператара ў той вёсцы, калі перад ім ляжалі вялікія прасторы Беларусі і Расіі і чакалі вялікія бітвы?

## ФРАНЦУЗСКІЯ ПАЛКАВОДЦЫ

Праз Пастаўшчыну ў час вайны 1812 года праходзілі французскія войскі пад кіраўніцтвам вядомых палкаводцаў:



**Іяхім Мюрат** (25 сакавіка 1767 – 13 кастрычніка 1815) — напалеонаўскі маршал, вялікі герцаг Берга ў 1806–1808 гадах, кароль Неапалітанскага каралеўства ў 1808–1815 гадах. У час вайны камандаваў кавалерыяй Вялікай арміі, якая складалася з 3 карпусоў (Нансуці, Манбрэн і Грушы). Французы складалі 2/3 ад ліку кавалерыстаў. У склад кожнага корпуса ўваходзілі лёгкая кавалерыйская дывізія і 1–2 кірасірскія дывізіі.



**Эдуард Адольф Казімір Марцье** (герцаг дэ Трэвізо, 13 лютага 1768 – 28 ліпеня 1835) — маршал Францыі. У час вайны камандаваў напалеонаўскай гвардыяй, якая складалася са Старой Гвардыі (Лефеўр), Маладой Гвардыі (Марцье) і гвардзейскай кавалерыі (4 тысячы, Бесьер).



**Ларан дэ Гувіён Сен-Сір** (13 красавіка 1764 – 17 сакавіка 1830) — маршал Францыі. У час вайны камандаваў 6-м корпусам, які быў сфармаваны з баварцаў. Складаўся з 2 пяхотных дывізій (Дэруа і Шкодэ) і 2 брыгад лёгкай кавалерыі.



**Прынц Эжэн Руж (Яўгеній дэ Багарнэ**, 3 верасня 1781 – 21 лютага 1824) — віцэ-кароль Італіі, дывізіённы генерал. Пасынак Напалеона. У час вайны камандаваў 4-м корпусам, які быў сфармаваны ў верхняй Італіі. У яго склад уваходзілі 2 французскія пяхотныя дывізіі, 1 італьянская пяхотная дывізія, італьянская гвардыя і 2 лёгкія кавалерыйскія брыгады (2400 вершнікаў): 13-я дывізія (Дэльзон), 14-я дывізія (Брусье), 15-я дывізія (Піно).



**Шарль Антуан Луі Алексіс Маран** (4 чэрвеня 1771 – 2 верасня 1835), дывізіённы генерал, граф Імперыі. У час вайны камандаваў 1-й дывізіяй 1-га корпуса Даву, якая захапіла Паставы.



**Эцьен Мары Антуан Шампьон дэ Нансуці** (30 траўня 1768 – 12 лютага 1815) — напалеонаўскі дывізіённы генерал, граф. У час вайны камандаваў 1-м корпусам кавалерыі, які прайшоў праз Паставы на Казяны.

## РУСКАЯ АРМІЯ

### Імператар Аляксандр I



Рускі імператар Аляксандр I перад пачаткам вайны знаходзіўся ў Вільні. У гэтым горадзе размяшчаўся і штаб 1-й Заходняй арміі пад кіраўніцтвам Барклая дэ Толі. Пра тое, што французскія войскі перайшлі Нёман і пачалі наступленне, імператару далажылі вечарам 12 (24) чэрвеня, калі той быў на балі ў Бенінгсена.

13 (25) чэрвеня імператар выдаў маніфест аб пачатку вайны з Напалеонам, а праз тры дні разам з братам Канстанцінам і 1-й арміяй пакінуў Вільню, скіраваўшыся ў бок Свянцянаў. Там ён не затрымаўся і праз Паставы і Казяны пераехаў спачатку ў Відзы, а потым у Дрысенскі лагер.

## РУСКІЯ ПАЛКАВОДЦЫ

Праз Пастаўшчыну ў час вайны 1812 года праходзілі рускія войскі пад кіраўніцтвам вядомых палкаводцаў:



**Міхаіл Багданавіч Барклай дэ Толі** (16 [27] снежня 1761 – 14 [26] траўня 1818) — генерал-фельдмаршал, ваенны міністр, князь, герой вайны 1812 года, поўны кавалер ордэна Святога Георгія. Камандаваў усім рускім войскам на пачатковым этапе вайны 1812 г. Непасрэдна камандаваў 1-й рускай арміяй, часці якой размяшчаліся перад вайной на Пастаўшчыне і ў час адступлення праходзілі праз Паставы.



**Карл Фёдаравіч Багавут** (Карл Густаў фон Багенхуфвудт; 1761–1812) — расійскі генерал-лейтэнант. У час вайны камандаваў 2-м пяхотным карпусам.



**Мікалай Аляксеевіч Тучкоў** (1765–1812) — генерал-лейтэнант расійскага войска, камандзір 3-га пяхотнага корпуса.



**Павел Андрэевіч Шувалаў** (1776–1823) — граф прадстаўнік роду Шувалавых, сын А. П. Шувалава, унук фельдмаршала П. С. Салтыкова, генерал-лейтэнант, генерал-ад'ютант. У час вайны камандаваў 4-м пяхотным корпусам.



**Дзмітрый Сяргеевіч Дохтураў** (1759–1816) — рускі палкаводзец, генерал. У час вайны камандаваў 6-м пяхотным корпусам, які праходзіў праз Паставы.



**Пётр Пятровіч Пален 1-шы** (1778–1864) — граф, генерал-ад'ютант. У час вайны камандаваў 3-м рэзервовым кавалерыйскім корпусам, які праходзіў праз Паставы. Удзельнічаў у баі каля Казянаў.



**Кіпрыян Антонавіч Крэйц** (10 ліпеня 1777, Рэчыца Менскага ваяводства – 13 ліпеня 1850) — рускі палкаводзец, барон (з 1839 граф), генерал ад кавалерыі. У час вайны камандаваў Сібірскім драгунскім палком, удзельнічаў у баі каля Казянаў.



**Іван Міхайлавіч Вадбольскі** (1781–1861) — князь, удзельнік Напалеонаўскіх войнаў, генерал. У час вайны камандаваў Марыупальскім гусарскім палком, удзельнічаў у баі каля Казянаў.

# ПАМЯТКІ ВАЙНЫ 1812 ГОДА НА ПАСТАЎШЧЫНЕ

На тэрыторыі Пастаўскага раёна знаходзяцца некалькі мясцін, якія наўпрост або ўскосна звязаны з падзеямі вайны 1812 года. Яны захаваліся ў паданнях і гістарычных апавяданнях, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Відавочна, аднак, што некаторыя аб'екты да напалеонаўскага нашэсця дачынення не маюць. Асабліва гэта датычыцца курганных могільнікаў. Большасць з іх — гэта старажытныя пахаванні балтаў або крывічоў, якія атрымалі назву «французскія магілы» пад уздзеяннем магутнага ўражання, якое ахапіла мясцовае насельніцтва ў час напалеонаўскага нашэсця. Схема, якая падаецца ніжэй, адлюстроўвае размяшчэнне «французскіх» аб'ектаў і паказвае, што знаходзяцца яны ўздоўж галоўных напрамкаў руху войск Банапарта.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МАГІЛА КАЛЯ ЛОДАСЯЎ

На ўскрайку вёскі Лодасі ёсць мясціна, якая завецца «Французскія магілы». Па словах старажылаў, раней тут быў курган, у якім пахавалі напалеонаўскіх жаўнераў. У час вайны 1812 года асноўныя сілы аднаго з маршалаў Банапарта рухаліся па гасцінцы з Лынтупаў у бок Камаяў на Паставы. Жыхары Лодасяў ужо чулі пра рабаўніцтва і гвалт, якія чынілі французскія жаўнеры на сваім шляху. Хоць іх вёска знаходзілася трохі воддаль ад гасцінца, усё ж мясцовыя мужчыны, пабраўшы косы і сякеры, схаваліся ў суседнім ляску. Яны зрабілі на высокім дрэве назіральны пункт і сачылі за рухам непераможнай арміі. Час ішоў, і здавалася, вёсцы ўдасца пазбегнуць «міласці» французскіх ваякаў. Але ж не.

Невялікі атрад, які замыкаў рух калоны, звярнуў на дарогу, што вяла на Лодасі. Уварваўшыся ў вёску, французы пачалі шастаць па хатах і хлявах, выганяць скаціну, грузіць на вазы найбольш каштоўныя рэчы і адзенне.




*Памяткі вайны 1812 года на Пастаўшчыне*

У мужыкоў, што хаваліся ў лесе і бачылі, што адбываецца, закіпела кроў, рукі моцна сціснулі косы і сякеры. Яны гатовы былі ўжо выбегчы з лесу і біцца з французамі, каб бараніць свае сем'і і маёмасць. Але знайшоўся разумны чалавек сярод іх, які пераканаў, што такім чынам яны толькі нашкодзяць, а не дадуць рады. Ваяваць супраць добра падрыхтаваных і вопытных напалеонаўскіх жаўнераў у чыстым полі было бессэнсоўна. І мужыкі зрабілі засаду.

Калі французскі атрад з нарабаваным дабром рухаўся назад праз лясок да гасцінца, раптам рэзка ўскрыкнула лясная птушка і адначасова спераду і ззаду ад абозу з шумам зваліліся на дарогу два вялікія дрэвы. Французскі атрад патрапіў у пастку. Жаўнеры не паспелі арганізаваць абарону, як на іх з розных бакоў наляцелі раз'юшаныя сяляне і за некалькі хвілін пасеклі і пакалолі рабаўнікоў. Потым забітых сцягнулі ў адно месца, пахавалі і засыпалі зямлёй. Так і з'явіўся курган — французская магіла.

## ФРАНЦУЗСКІЯ ПАХАВАННІ Ў ГРУЗДАВЕ



Вялікі адбітак у памяці мясцовага люду пакінула вайна 1812 года, калі ў ваколіцах Груздава адбываліся сутычкі паміж узброенымі атрадамі. У пачатку вайны руская армія пад камандаваннем Барклая дэ Толі вяла абарончыя баі ў Віленскай губерні, на тэрыторыі Пастаўшчыны. Наступаючыя напалеонаўскія войскі паўсюдна займаліся гвалтам і рабаўніцтвам, пра што доўгі час з пакалення ў пакаленне перадаваліся апавяданні пра здзек, які чынілі французы над мясцовымі жыхарамі. У гісторыі застаўся эпізод з гэтай вайны: каля вёскі Ажарава быў разбіты раз'езд

войск маршала Даву. Французскія салдаты, якія загінулі ў гэтым баі, былі пахаваны на могілках каля царквы. Мясцовыя жыхары прыгадваюць, што ў час будаўніцтва дарогі (1937–1938), якая закранула частку прыцаркоўнай гары, выпадкова было знойдзена некалькі французскіх касак з літарай «F». Вяскоўцы мяркуюць, што яны належалі салдатам Напалеона.

## ФРАНЦУЗСКІЯ МАГІЛЫ Ў СЯРГЕЕВІЧАХ



На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, за калгаснымі майстэрнямі, у хваёвым ляску знаходзіцца вялікі комплекс курганоў. Мясцовыя жыхары называюць тое месца «Французскія магілы». Па іх жа словах, некаторыя курганы раскопвалі бульдозерам, каб знайсці якія-небудзь гістарычныя каштоўныя рэчы, але трапляліся толькі чалавечыя косці. Зараз налічваецца 23 насыпы, якія розняцца сваімі памерамі, формамі і ступенню захаванасці. Нейкай заканамернасці ў іх размяшчэнні не назіраецца, хоць прасочваецца агульная выцягнутасць з поўначы на поўдзень. Дванаццаць курганоў знаходзяцца ў добрым стане, іншыя ў большай ці меншай ступені пашкоджаны. Пераважаюць насыпы вышынёй ад 1 да 2 метраў, але сустракаюцца і большыя. Самы высокі курган дасягае 3 метраў, найніжэйшы — 0,5 метра. Значна розняцца насыпы і па дыяметры: больш за палову маюць папярочнік ад 7 да 10 метраў, у самага вялікага — 16 метраў.

Паводле легенды, тут, каля Сяргеевічаў, у час вайны з Напалеонам быў разбіты вялікі атрад французаў, якіх і пахавалі ў гэтых курганах. Археолагі ж лічаць, што Сяргеевіцкі могільнік намнога старэйшы і на ім знайшлі свой вечны спачын старажытныя людзі, якія жылі на тутэйшай зямлі ў першым тысячагоддзі нашай эры.

## ФРАНЦУЗСКІ МОГІЛЬНІК КАЛЯ ЦЮКШОЎ




Каля вёскі Цюкшы, што ляжыць на мяжы Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў, пры дарозе стаіць шыльда «Воинское захоронение». За ёй — даволі высокі ўзгорак, які з боку вёскі пашкоджаны кар'ерам.

Па словах тутэйшых жыхароў, раней ніхто і не ведаў, што тут нехта пахаваны. А вось калі пачалі браць з гэтай гары пясок на падсыпку дарогі і зрабілі кар'ер, то ўбачылі, што з зямлі сыплюцца чалавечыя косткі. Работы прыпынілі. З Мінску прыехалі навукоўцы, праводзілі раскопкі, знаходзілі боты і яшчэ штосьці. Сказалі, што там французы пахаваныя.

Зараз той кар'ер закінуты, але па схіле гары яшчэ сям-там сустракаюцца чалавечыя косткі.

## ФРАНЦУЗСКІЯ МАГІЛЫ Ў РАЧАНАХ




Каля вёскі Рачаны пры дарозе з Кавалёў на Пеляку ёсць невысокі ўзгорак, які завуць Моліна, або Французскія магілы. Што тут адбывалася і чаму яны тут з’явіліся, пра гэта ніхто сказаць не можа.

На ўзгорку ёсць некалькі вялікіх ямаў, вырытых «чорнымі археолагамі». Кажуць, яны там знаходзілі чалавечыя сківіцы, косці, «французскія бляшкі».

## КУРГАНЫ Ў ЗАКАНОЎШЧЫНЕ

Па звестках Ф. В. Пакроўскага і Г. В. Штыхава, каля вёскі Заканоўшчына знаходзяцца курганы. Ф. Пакроўскі пісаў: «*Курганы* въ предѣлахъ **Луцкой** вол. находятся при имѣніяхъ **Законовскъ** и **Верецея** и около деревень **Запасники** и **Казимерщина**. По рассказамъ стариковъ, курганы — могилы шведовъ, которые вмѣстѣ съ убитыми скрыли здѣсь много своего имущества. Въ 1889 г. нѣкоторые изъ кургановъ были раскопываемы изъ любопытства крестьянами, но въ нихъ кромѣ человѣческихъ костей ничего не было найдено». Зараз вёска не існуе, застаўся адзін хутар. Месца курганнай групы абследавалася ўдзельнікамі навуковага краязнаўчага таварыства «Ювента» (кіраўнік — І. М. Пракаповіч) у 2004 і 2007 гадах. Курганы не выяўлены. Па словах мясцовых жыхароў, раней тут знаходзіліся «валатоўкі», але яны былі знішчаны ў час будаўніцтва дарогі. Сведкі сцвярджалі, што ў пяску, які вывозілі з кurганоў, траплялiся вялікія косткі — «галёнкі значна большыя, чым у сучасных людзей». Гэта нарадзіла мясцовую версію пра пахаванне ў курганах элітных французскіх або шведскіх жаўнераў.

Вельмі можа быць, што ў курганах разам з пахаваннямі людзей былі і пахаванні коней, што і выклікала з'яўленне легенд. Верагодна, па ўзросце курганы можна аднесці да канца I – пачатку II прасачыць, каб не вісела лічба тысячагоддзя нашай эры.

## ФРАНЦУЗСКІЯ МАГІЛЫ КАЛЯ КАРАЛІНОВА

Паміж вёскамі Канябічы і Каралінова на ўзгорку пры дарозе знаходзіцца ўрочышча Французскія магілы. Зараз месца моцна зарасло хмызняком і дэталёва разгледзець планіроўку і асаблівасці размяшчэння помніка немагчыма.

У 2006 годзе Французскія магілы абследаваў І. М. Пракаповіч. Аб'ект уяўляе сабой сістэму выцягнутых паглыбленняў паміж невысокімі ўзгоркамі. Мае памеры 55 на 30 метраў, выцягнуты ў напрамку з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. З вонкавага боку па перыметры могільніка знаходзіцца невысокі вал, унутры якога выяўна выдзяляецца роў. У цэнтральнай частцы прасочваюцца тры рады курганоў розных памераў, прычым у крайніх радах налічваецца па чатыры большыя насыпы, у сярэднім — шэсць меншых. У паўночнай частцы размяшчаецца папярочны выцягнуты ўзгорак, вакол якога маецца роў. Сустракаецца шмат ям штучнага паходжання, верагодна, нядаўніх раскопак. Па кутах могільніка знаходзяцца даволі вялікія валуны. У паўднёва-ўсходнім куце — вялікае скопішча камянёў (каля 30). Верагодна, яны былі сцягнуты з поля. Помнік патрабуе дэталёвага вывучэння і аховы.

## ФРАНЦУЗСКІЯ МАГІЛЫ КАЛЯ ШУДАЎЦАЎ

Прыблізна за 200 м на захад ад в. Шудаўцы знаходзіцца ўрочышча Французскія магілы. Цяпер гэта зарослае травой няроўнае поле, асноўная частка курганоў знішчана. Засталося пяць курганных насыпаў каля гары Маяк, што паблізу Шудаўскага возера. На полі мясцовыя жыхары выкопвалі чалавечыя косці. Выявіў курган

лынтупскі краязнавец А. Гарбуль, абследаваў у 2005 годзе археолаг Э. Зайкоўскі.

## ФРАНЦУЗСКІ СКАРБ

Паміж Белькамі і Барэйкамі ёсць урочышча Ольшнева. У мінулым там расло многа дубоў. Частку іх спілавалі людзі, некаторыя былі спаленыя маланкамі, іншыя ж загінулі самі ад старасці. Але і зараз у той мясцовасці яшчэ сустракаюцца дубы-волаты.

Дык вось, пад адным з іх знаходзіцца багаты скарб. Паводле легенды, з'явіўся ён тут у часы вайны з Напалеонам. Калі французы адступалі з Масквы ці з-пад Полацка, то везлі з сабой шмат нарабаваных каштоўнасцяў. Руская армія грозна рухалася следам і не давала напалеонаўцам ачомацца. Таму абозы з нарабаваным дабром падзяліліся на невялікія атрады, кожны з якіх ратаваўся сам па сабе. Так адна карэта з золатам і срэбрам пад аховай невялікай групы жаўнераў патрапіла ў наш край. Французы спяшаліся хутчэй пакінуць гэтую варожую да іх зямлю, але рухацца было цяжка, бо восеньскія дажджы размылі дарогі, вада ў рэках моцна разлілася. Ды яшчэ да таго ж і моцна захаладала.

На пераездзе ўброд праз невялікую рачулку карэта загразла. Тузаліся-тузаліся французы, а рады даць не маглі. А рускія былі ўжо блізка. Тады скінулі яны скрыні і мяхі са скарбамі з карэты ды і закапалі пад бліжэйшым дубам. Пэўна, спадзяваліся, што ўдасца пазней вярнуцца. Самі ж падаліся наўцёкі. Але, мусіць, далёка не ад'ехалі. Кажуць, дагналі іх рускія каля Войнеўкі ды і пабілі. Там ёсць яшчэ французскія магілы.

А скарб, напэўна, і сёння ляжыць пад адным з дубоў-волатаў…

## ВОЙНЕЎКА



Непадалёку ад вёскі Стары Двор знаходзіцца невялікае паселішча Войнеўка. Як успаміналі дзяды-прадзеды, на гэтым месцы ў 1812 годзе адбылася ўзброеная сутычка паміж французскімі і рускімі воінамі («воямі»). У час яе загінула даволі многа напалеонаўскіх жаўнераў, якія былі пахаваны непадалёку ва ўрочышчы Жвіроўня. Там зараз знаходзяцца «французскія магілы». Ну а на месцы, дзе калісьці «ваявалі», пазней узнікла вёска, у назве якой і адлюстраваўся напамін пра тую гістарычную падзею. Старажылы прыпамінаюць, што калісьці даўно на тым месцы знаходзілі «крывыя» пісталеты.

## ВЁСКА САВІЧЫ І НАПАЛЕОНАЎСКІЯ ВАЯКІ

Вёска Савічы вядома з другой паловы XVI стагоддзя ў складзе ВКЛ. У сярэднявеччы тут праходзіў бойкі тракт з Вільні на Полацк. Цяпер ён вядомы пад назвай «шлях Баторыя – Напалеона», бо менавіта гэтыя гістарычныя асобы вялі свае войскі праз тутэйшую мясцовасць у напрамку на ўсход. У вёсцы расказваюць паданне пра французаў. У час паходу на Маскву атрад напалеонаўцаў спыніўся на ўскрайку Савічаў на гарохавым полі аднаго з гаспадароў. Жаўнеры распалілі вогнішча, лушчылі гарох, таптаі пасевы. Убачыўшы гэта, гаспадар пабег да іх і стаў крычаць і прасіць, каб яны не дратавалі поле, бо ўраджай прападзе і галадаць прыйдзецца. Але французы не паслухаліся. Яны павыцягвалі з вогнішча галавешкі

і пачалі біць імі вяскоўца. Ад пабояў і апёкаў гаспадар у хуткім часе памёр.

## САСНА РАЙМА

Напалеонаўскія войскі наступалі ў бок вёскі Вілейты. Надышла ноч. Рускі генерал Райма з невялікім атрадам спыніўся на адпачынак у Вілейцкім лесе. Французы напалі на іх раптоўна, мала хто застаўся ў жывых. Загінуў і рускі генерал. З той пары сасна, каля якой яго напаткала смерць, называецца «сасна Райма». Потым на тым месцы пабудавалі маяк, які быў вышэй за дрэвы.

## ФРАНЦУЗСКІЯ КУРГАНЫ Ў МАНЬКАЎСКІМ ЛЕСЕ

Па словах мясцовых жыхароў, недалёка ад Манькавічаў, у лесе пры дарозе на вёску Дзеравянкі, знаходзяцца два адметныя курганы. І хоць зараз яны параслі лесам і травой, але яшчэ даволі добра вызначаюцца на мясцовасці. Іх называюць «французскія курганы». Кажуць, што ў іх закапаны каштоўныя рэчы, якія напалеонаўскія жаўнеры нарабавалі ў час паходу на Расію. Ратуючыся пры адступленні ад пераследу рускіх, два вазы са скарбамі збочылі з Полацкага тракту і не знайшлі іншага выйсця, як закапаць рэчы ў Манькаўскім лесе.

## ШЛЯХ БАТОРЫЯ – НАПАЛЕОНА

З розных гістарычных і літаратурных крыніц вядома, што ад старажытнасці і да параўнальна нядаўняга мінулага праз паўночна-заходнюю частку Беларусі праходзіў Віленска-Полацкі тракт, або, як яго яшчэ называюць шлях Баторыя – Напалеона, або Альгердаў шлях. Вось як пра яго піша Юрка Віцьбіч у кнізе «Плыве з-пад Святое Гары Нёман»: «Пры ўспаміне аб годным свайго бацькі Гедзіміна славутым Альгердзе Вялікім, што “прислонил своё коп’ё до Москвы”, перш за ўсё прыгадваецца паміж геаграфічных



*Шлях Баторыя-Напалеона каля Патроўшчыны*

називаў Альгердаў Шлях. Схэматычны накід яго пазьней зрабіў Райнгольд Гайдэнштайн. Значна пазьней яго дасьледваў А. Сапуноў, але й сяньня можна спазнаць яго па зарослых, але прыкметных прасеках у лясох, па адхонных спусках да рэчак, па перакопах праз узгоркі, па гацях на балатох, па вугальлю ад спаленых вёсак, па знойдзеных абапал яго шышаках і палашах. Ён ідзе ад Полацку паўз мызы Рудні, праз раку Вушач, паўз Мядзьведжае возера проста на Чортаў Мост і, прайшоўшы каля Бахонкавае Гары, губляецца паблізу сучаснага гораду Глыбокага».

Як бачым, паводле слоў Ю. Віцьбіча, шлях дакладна прасочваўся да Глыбокага, яго ўпэўнена праводзілі праз Міхалішкі і Канстанцінава. А дзе ж ён ішоў праз Пастаўшчыну?

Згадку пра гэтую гістарычную дарогу знаходзім у кнізе Г. Жабroom«Міхнічы». У ёй аўтар — ураджэнец гэтай вёскі — паведамляе, што за два кіламетры на поўдзень ад паселішча праз вёску Савічы праходзіў шлях Баторыя – Напалеона. Верагодна, гэта дарога праходзіла і праз мястэчка Манькавічы, пра што маецца шэраг ускосных сведчанняў у кнізе І. Пракаповіча, І. Заяц і А. Вансовіч «Манькавічы»:




*Шлях Баторыя – Напалеона праз Манькавічы і Савічы*

«…Паводле падання, у час напалеонаўскага нашэсця ў 1812 годзе праз Манькавічы праходзілі адступаючыя французскія войскі. У манькавіцкім лесе знаходзяцца два так званыя “французскія курганы”, нібыта насыпаныя ваякамі “непераможнай арміі”.

…У 1886 годзе Манькавічы — мястэчка ў Манькавіцкай воласці Віленскага павету Віленскай губерні, валаснoе праўленне. Тут знаходзілася крама, капліца, заезны двор, вадзяны млын з сукнавальняй, піцейны дом, дзве праваслаўныя царквы.

…Пры валаснoй управе мелася паштовая станцыя з некалькімі коньмі. Трымаў яе Андрон».

Прааналізаваўшы гістарычныя і геаграфічныя карты, можна прыйсці да высновы, што старажытны шлях праходзіў амаль праз усю Пастаўшчыну. Пачынаўся ён, верагодна, каля вёскі Міхалі і

вёў на Пятроўшчыну. Рэшткі гэтай дарогі ў выглядзе дзвюх каляін у атачэнні рэдкіх дрэў захаваліся на ўзгорках на поўнач ад вёскі Ідаліна.

Ад Пятроўшчыны шлях ішоў каля возера Варанец, падымаўся на ўзгоркі каля возера Доўжа і каля былой шляхецкай сядзібы кіраваўся ў Манькаўскі лес да Сарочына і Манькавічаў. Апошняя вёска, раней мястэчка, адыгрывала ў сярэднявеччы важную ролю на гэтым шляху, пра што сведчыць сем дарог, якія ад яе адыходзяць у розныя бакі, бровар, маёнтак Друцкіх-Любецкіх, дзве царквы, тры капліцы, вялікія могілкі і ўжо згаданая паштовая станцыя.

З Манькавічаў шлях вёў праз Мястэчка на Савічы. Тут ён захаваўся ў выглядзе сучаснай грунтовай дарогі. Адрэзак жа ад Савічаў да Жалязоўшчыны зараз зусім закінуты, зарос травой ды хмызамі і з цяжкасцю прасочваецца на мясцовасці.

Ад Жалязоўшчыны шлях вёў да адметнага мястэчка Цешылава, у якім раней мелася аж тры шляхецкія сядзібы, і далей праз лес выводзіў да мястэчка Лучай. Гэта дарога існуе і зараз, але ў некаторых месцах пашкоджана глыбокімі ямамі, і таму праехаць па ёй праблематычна, асабліва ў мокрае надвор’е.

За Лучаем шлях ішоў праз мястэчка Дунілавічы, вёскі Норыца і Ласіца на Глыбокае.

## КАПЛІЦА Ў АСІНАГАРАДКУ

У вёсцы Асінагарадок на высокім кургане-гарадзішчы стаіць прыгожая драўляная царква са званіцай. Побач з царкоўнай каменнай агароджай знаходзіцца мураваны помнік-капліца ў гонар падзей вайны 1812 года. Паводле «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць», ён узведзены на месцы брацкай магілы рускіх жаўнераў, якія загінулі ў сутычках з французамі. Помнік быў змураваны, па адной версіі, у 1813 годзе, па другой — у першай палове XIX стагоддзя.

Гэтым звесткам можна было б давяраць, каб не існавала некалькі акалічнасцяў, якія выклікаюць сумненне ў тым, што тут пахаваны менавіта ўдзельнікі вайны 1812 года. Па-першае, дакументальных звестак пра закладку гэтага помніка пакуль што не выяўлена; па-другое, ні ў адным гістарычным дакуменце і публікацыях XIX–XX стагоддзяў не згадваюцца якія-небудзь баі ці сутычкі паміж рускімі і французамі каля вёскі Асінагарадок (існуе толькі паданне); па-трэцяе, калі б капліца была пастаўлена ў гонар рускіх, то лагічна, што ў яе навершшы мусіў быць праваслаўны крыж, але там знаходзіцца або крыж мальтыйскага ордэна, або зменены георгіеўскі крыж (у сяродкрыжжы замест выявы Георгія Пераможцы размешчаны твар (маска) чалавека). Гэта ўсё спарадзіла некалькі версій-легенд, якія падаюць шэраг адрозных інтэрпрэтацый значэння помніка. Паводле адной з іх, каля капліцы ляжаць не рускія, а французскія жаўнеры: іх, католікаў, пахавалі за межамі царкоўнай агароджы. Другая гіпотэза даводзіць, што помнік пастаўлены ўдзельніку вайны, рускаму генералу Якаву Смірнову. Але ці быў такі генерал і чым ён мог праславіцца — невядома. Паводле трэцяй версіі, капліца ўсталявана на брацкай магіле, у якой вечным сном спяць і французскія, і рускія жаўнеры. Чацвёртая




*Капліца ў Асінагарадку*



*Крыж на капліцы*

гіпотэза грунтуецца на тым, што помнік —памятка вайны не 1812 года, а значна ранейшай — Паўночнай.

Якая версія дакладная, вызначыць час і новыя дапытлівыя даследчыкі гісторыі нашага краю.

## ПАДАННЕ ПРА ПАРЫЖ

У Пастаўскім раёне ёсць вёска з адметнай назвай — Парыж. Паводле падання, такое найменне ёй даў сам Напалеон Банапарт. А было гэта ў час вайны з французамі 1812 года.



*Эйфелева вежа ў Парыжы*

Неяк раніцай жыхары вёскі ўбачылі, што на Сароцкай гары з'явіўся невялікі атрад казакаў. Відаць, яны меліся там адпачыць, бо рассядлалі коней, расклалі вогнішчы, пачалі варыць кашу. Але потым хутка агонь пагасілі і некуды зніклі.

Пад абед да вёскі падышлі французскія войскі. І ў гэты момант на іх з засады наляцелі казакі. Завязаўся бой. Французы занялі абарону і чакалі падмацавання. Праз дзве гадзіны, калі з боку Ласькіх пачаў набліжацца яшчэ адзін напалеонаўскі атрад, казакі вымушаны былі адступіць. Было гэта, верагодна, 4 ліпеня.

Прайшло некалькі дзён, і ў вёску ўвайшлі галоўныя сілы французскай арміі. Якраз на карэце са світай пад'ехаў Напалеон. Быў час абеду. Імператару накрылі стол на адным з узгоркаў, дзе ён і прыпыніўся. Аглядаючы навакольныя краявіды, Банапарт прыйшоў у захапленне ад убачанага.

— Якія маляўнічыя мясціны! — усклікнуў ён. — Тут прыгожа, як ў парках Парыжа! Давайце назавем гэту вёсачку так: маленькі Парыж.

Наступнай раніцай вясковых жыхароў сабралі на сход. Пяцёра гвардзейцаў пачалі тлумачыць вяскоўцам, што цяпер іх паселішча будзе называцца Парыж. Размову вялі праз мясцовага пана. Той перакладаў, як мог. А ў канцы весела спытаў: «Ну як, згодны стаць парыжанамі?» «А што? Парыж дык Парыж, толькі б кароў не чапалі», — адказалі сяляне.

Як сведчыць паданне, кароў французы ўсё ж забралі на патрэбы арміі, а назва засталася. Пан ад яе быў у захапленні, а сяляне паступова прывыклі.



# КРЫНІЦЫ

1. Архіў Пракаповіча І. М.
2. Бескровный, Л. Г. Отечественная война 1812 года / Л. Г. Бескровный. — М. : Соцэкгиз, 1962. — 611 с.
3. Богданович, М. И. История Отечественной войны 1812 года / М. И. Богданович. — СПб. : Тип. Торгового дома С. Струговщика, Г. Похитонова, Н. Водова и Ко, 1859. — Т. 1. — 588 с.
4. Бокур, Ф. День за днём / Ф. Бокур. — borodino.ru›download.php?file_id=620&__CM3__CM3=…
5. Бутурлин, Д. П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 году : в 2 ч. / Д. П. Бокур. — СПб. : Военная типография, 1837. — Ч. 1. — 441 с.
6. Драўніцкі, І. П. Братазабойчая вайна / І. П. Драўніцкі // Нашы карані. — 2003. — № 5. — С. 8–11.
7. Коленкур, А. Мемуары. Поход Наполеона в Россию / А. Коленкур. — Таллинн ; М. : Скиф Алекс, 1994. — 464 с.
8. Михайловский-Данилевский, А. И. Описание Отечественной войны в 1812 году : в 4 т. / А. И. Михайловский-Данилевский. — 3-е изд. — СПб. : Типография Штаба Отдельного корпуса внутренней стражи, 1843. — Т. 1.
9. Рыкачёв, М. А. Холода 1812 года / М. А. Рыкачёв // Боевой календарь-ежедневник Отечественной войны 1812 года / сост. Н. П. Поликарпов. — М. : Печатня А. Снегиревой, 1913. — С. 46–52.
10. Тарле, Е. В. Нашествие Наполеона на Россию / Е. В. Тарле // Собрание сочинений : в 12 т. — М. : Издательство АН СССР, 1959. — Т. 7. — С. 435–732.
11. http://westki.info/blogs/12953/1812-hod-sobytiia-v-litvie

> Ніколі не выжыве той народ, які ўспрымае трактоўку сваёй гісторыі вачыма суседа.
>
> *Ф. Ніцшэ*

# УВОДЗІНЫ

У 2012 годзе споўнілася 200 год сусветна вядомаму паходу Напалеона на Маскву. У савецкай гістарыяграфіі з гэтым паходам было ўсё ясна і зразумела: злосны агрэсар Напалеон вераломна напаў на Расію, і беларускі народ стаў плячом да пляча з брацкім расійскім народам, каб абараніць айчыну ад акупантаў.

Але час рухаецца наперад, імперыі развальваюцца, у тым ліку і савецкая, і да ўвагі грамадства пачынаюць з'яўляцца тыя гістарычныя матэрыялы і дакументы, аб якіх у савецкія часы ніхто не ўзгадваў, бо яны ніяк не ўпісваліся ў савецкую ідэалогію. У тым ліку і датычныя Напалеонаўскай вайны. Цяпер, калі ўрэшце можна пры вывучэнні гэтай падзеі абапірацца на самыя розныя крыніцы, мы маем зусім іншую карціну таго, што адбывалася ў той час на нашай зямлі.

Паспрабуем свежа зірнуць на тагачасныя падзеі. Расійскі бок выпусцім з-пад увагі знарок, бо тут, здаецца, нас не чакаюць адкрыцці: расійская ўлада змагалася за тую тэрыторыю, якую лічыла сваёй. Нас больш цікавяць беларусы і французы. Беларусаў трэба разглядаць дыферэнцыйна, у залежнасці ад саслоўнай прыналежнасці. Што тычыцца французаў, нашай задачай будзе выявіць, якімі інтарэсамі яны кіраваліся на тэрыторыі Беларусі. Пачнём з колькасна самага масавага сацыяльнага пласта грамадства сярод беларусаў.

# СЯЛЯНСТВА

Беларускае насельніцтва таго часу складалася ў асноўным з сялян. Адпаведна, калі зыходзіць з колькаснай перавагі, то, тэарэтычна, вырашаючым саслоўем у адносінах да французаў павінна было стаць менавіта сялянства. Як жа сяляне сябе паводзілі? У сучасніка тых падзей пісьменніка Яна Баршчэўскага ёсць такі верш пра сустрэчу беларускіх мужыкоў з «прanцузамі»:

Прanцузы нас пахвалялі,  
Аб нашым краі ўпавалі  
Іна мігі нас прасілі,  
Каб мы зь імі двор лупілі,  
Імы доўга там гулялі:  
Што хацелі пілі, бралі.

«Пранцузы» — гэта было такое тагачаснае вымаўленне слова «французы» сярод нашага сялянства. Але тут больш цікава тое, што нашыя сяляне, мяркуючы па вершы, рабілі разам з французамі. Яны лупілі двары, г. зн. рабавалі. Беларускія сяляне разам з французскімі акупацыйнымі войскамі. Карціна амаль што фантастычная. Ян Баршчэўскі, канечне, пазней пісаў пра Беларусь у фантастычных апавяданнях, але гэта датычылася беларускага фальклору, а не рэальных падзей 1812 года.

Дыму без агню не бывае. І калі Баршчэўскі напісаў такі верш, значыць, ён на нечым грунтаваўся. Каго ж маглі рабаваць беларускія сяляне разам з французамі? Акрамя сялян у Беларусі жылі яшчэ гараджане, шляхта і святарства. А таксама невялікая колькасць расійскіх памешчыкаў і арандатараў, якія з’явіліся на нашай тэрыторыі пасля захопу Беларусі Расійскай імперыяй падчас падзелаў Рэчы Паспалітай. Святарства адкідваем адразу, бо нават калі сяляне і не былі вельмі маральнымі, але не мелі адукацыі, і таму ў іх быў нейкі страх перад звышнатуральнымі сіламі. Рабаваць гарады або шляхту было нельга, таму што яны адносна лаяльна ставіліся да французаў. Адзіныя, каго было можна ў такой сітуацыі рабаваць,

гэта прыехаўшыя царскія памешчыкі, якія атрымалі зямлю ў Беларусі, і некаторыя асобы з мясцовай шляхты, хто перайшоў на бок расійскага цара.

Атрымоўваецца нейкая парадаксальная сітуацыя. Савецкія гісторыкі дзесяцігоддзямі казалі пра братэрства нашых народаў, пра тое, як мы разам змагаліся з французамі. А калі прыгледзецца больш уважліва да справы, то атрымоўваецца ўсё наадварот. Можна выказаць здагадку, што калі нашыя сяляне так заўзята разам з французамі рабавалі расійскіх памешчыкаў, то яны былі апазіцыйна настроеныя да расійскай улады.

Але нельга рабіць паспешлівых высноваў пра паўсюдную лаяльнасць сялян-беларусаў да французаў. Па легендзе, калі пастаўскую вёску Лодасі абрабавалі французкія часткі, то жыхары вёскі зладзілі ў лесе засаду, салдат пабілі і забралі назад сваё дабро. У вёсцы Савічы, калі мясцовы селянін стаў спрачацца з французскімі жаўнерамі за тое, што яны патапталі яго гарохавае поле, тыя так моцна збілі яго, што нябога памёр. І гэта не адзіныя сведчанні пра рабаўніцтвы французамі беларускіх сялян, пра ўзброеныя сутычкі з імі.

Атрымоўваецца зусім незразумелая сітуацыя. То нашыя сяляне разам з французамі нападаюць на рускіх, то разам з рускімі на французаў. Якую ж мэту ў вайне 1812 года пераследавалі беларускія сяляне і на чыім баку стаялі?

Каб лепш зразумець беларускае сялянства, трэба крыху паглыбіцца ў гісторыю. З даўніх часоў сяляне не вельмі цярпелі ад пануючых саслоўяў. Да 16 стагоддзя амаль адзінымі праблемамі сялян былі або неўраджаі, або набегі татараў ці крыжакоў. У 16 стагоддзі сітуацыя змянілася: у Заходняй Еўропе пачалося пашырэнне прамысловых мануфактур і, адпаведна, павялічыўся попыт на сельскагаспадарчую прадукцыю, асабліва на зерневыя. І беларуская шляхта пачала імкнуцца як мага больш сялян загнаць у прыгон, каб, выкарыстоўваючы іх працу, атрымоўваць як мага больш зерневых і прадаваць іх за мяжу. Менавіта для гэтага пачалі стварацца фаль-

варкі — адмысловыя цэнтралізаваныя гаспадаркі для вытворчасці таварнага зерня. Жыццё беларускага селяніна пачало змяняцца. Эксплуатацыя пачала павялічвацца, што не падабалася сялянам. У выніку на мяжы 16–17 стагоддзяў выбухнулі некалькі сялянскіх паўстанняў, а ў сярэдзіне 17 стагоддзя супярэчнасці паміж пануючымі і падначаленымі саслоўямі выраслі настолькі, што на поўдні Беларусі пачалася грамадзянская вайна.

І як аказалася, гэта стала толькі пралогам да далейшага пагаршэння стану сялянства. Адразу пасля грамадзянскай вайны незадаволенае сялянства, якое апынулася на баку прайграўшых, пачало слаць рускаму цару прашэнні аб тым, каб ён вызваліў іх з-пад прыгнёту каталіцкай шляхты. Цар выкарыстаў гэтыя прашэнні як афіцыйную прычыну для ўварвання на тэрыторыю Беларусі. І пачалася 13-гадовая вайна (1654–1667 гады), якая стала катастрафічнай не толькі для гараджан і шляхты, але і для сялянства. Бо пераважную большасьць насельніцтва Беларусі на той час складалі менавіта сяляне. Адпаведна, у абсалютных лічбах яны і пацярпелі больш за ўсё. Амаль кожны другі быў забіты ці захоплены ў палон, да таго ж пасля ўсіх рабункаў шмат людзей гінула ад голаду і хвароб.

Лагічна, што такая каласальная дэмаграфічная катастрофа не магла не адбіцца на ментальнасці людзей. Для прыкладу, мы да сёння адчуваем наступствы Другой сусветнай вайны, хаця нашыя людскія страты падчас яе склалі каля 30 %, у адрозненне ад 50 % падчас той 13-гадовай вайны. І ледзь прайшло 30 гадоў пасля яе заканчэння, як на нашую зямлю абрынулася новая вайна — Паўночная. На гэты раз тэрыторыя Беларусі стала арэнай для баявых дзеянняў паміж рускімі і шведскімі войскамі, для якіх, зразумела, жыццё мясцовых людзей таксама нічога не каштавала. У выніку нашае насельніцтва, нават не паспеўшы аднавіцца пасля папярэдняй вайны, зноў страціла адну трэціну, і большую частку, зноў-такі, складалі сяляне.

Пасля ўсіх гэтых падзей паспрабуем уявіць сабе, як магло змяніцца светаўспрыняцце беларускага селяніна? Трэба сказаць, што і перад усімі гэтымі войнамі стаўленне простых людзей да навакольнага свету было не надта асэнсаваным. Яго трапна апісаў Эрнест Ялугін: «У вузкім асяродку суродзічаў і суседзяў людзі, асабліва “простага” стану, ведалі хіба якая іхняя вера (ад папа), ды хто над імі ўсімі вялікі князь, ну і хіба больш смутна пра вялікакняскае атачэнне, адкуль спярша ж і ўсталёўвалася, умоўна кажучы, “нацыянальная” назва дзяржавы, а ад яе ўжо — насельніцтва». Але пасля гэтых знішчальных войнаў можна сабе ўявіць тое, як селянін ставіўся да навакольнага свету, калі пастаянна налятаді розныя драпежнікі і калі не забівалі, то рабавалі дашчэнту. У свядомасці селяніна, хутчэй за ўсё, пасяліліся страх і падазронасць да ўсяго чужога і невядомага. Ды і ад «сваіх» нічога добрага чакаць не даводзілася. У 18 стагоддзі цэнтрабежныя сілы ў Рэчы Паспалітай узмацніліся. Шляхта ўсё больш рупілася пра свой асабісты дабрабыт, які каштаваў грошай, адпаведна, і эканамічны ціск на сялянства ўзмацняўся.

Пасля захопу Беларусі Расійскай імперыяй стала яшчэ горш. Царская ўлада змяніла сістэму падаткаабкладання сялян у горшы для іх бок (змена падымнага падатку на падушны і выпампоўванне з насельніцтва металічных грошай, замест якіх выдавалі папяровыя, фактычны кошт якіх быў меншы). Акрамя таго, тыя расійскія памешчыкі, якія атрымалі ад Кацярыны II маёнткі ў Беларусі, пачалі з дапамогай арандатараў бязлітасна рабаваць тубыльцаў-«пасялянаў», харчовае зерне ў шматлікіх вінакурнях перапрацоўваючы на гарэлку. Расійскі генерал Г. Р. Дзяржавін у сваёй справаздачы імператару Паўлу I адзначаў: «…приехав в Белоруссию самолично дознал великий недостаток поселян в хлебе… самый сильный голод». Адбілася гэта і на светаўспрыняцці простых людзей: «Мы спрэжда былі багаты, было ў нас трыдцаць коней. Наканец таго, заступілі памешчыкі з Масквы, коней пазабіралі, асталось з трыд-

цаці толькі тры», «Пакуль Кацярынушка не забрала край, зімы былі карацей, а як забрала, лета стала карацейшым».

Пасля ўсяго гэтага заканамерна, што беларускія сяляне ў пачатку 19 стагоддзя не верылі нікому: ні сваім панам, ні расійскім памешчыкам. Да таго не трэба забываць, што да наступлення французаў у Беларусі стаяла расійская армія, якая таксама патрабавала немалога ўтрымання. І зноў-такі за кошт мясцовых сялян. Адзін з расійскіх афіцэраў, Павел Пушчын, які са сваімі жаўнерамі размяшчаўся на Пастаўшчыне, пакінуў яскравыя нататкі ў сваім дзённіку:

*4 апреля. Четверг.*

*Себеж. Со вчерашнего дня мы в Белоруссии.*

*7 апреля. Воскресенье.*

*Каширино. Местность, по которой мы шли, страшно бедна. Вся дорога усеяна нищими и слепыми. В нищете виновны владельцы, но интересно, кто виноват в таком громадном количестве слепых. Арендаторы, желающие вытянуть как можно больше барышей, обременяют крестьян такой непосильной барщиной, что у них не остается свободного времени для работы на себя. Это мне сообщил крестьянин, принадлежавший некоему Шадульскому, который сдал крестьян в аренду русскому купцу.*

*14 апреля. Воскресенье.*

*Всем капитанам (ротным командирам) полка приказано явиться к командиру полка в Иказни к 10 часам утра. В том числе явился и я. Нам приказано собрать самые подробные сведения о количестве провианта, который можно застать в занимаемых нами деревушках. В рапортах надо точно донести о количестве хлеба, фуража и скота, принадлежащего как обществам крестьян, так равно и землевладельцам, отдельно у каждого. Поляки были очень изумлены этим распоряжением. Мне было крайне досадно доставить неприятности бедному Салмановичу, у которого было очень мало имущества и он оказался очень хорошим человеком.*

*27 апреля. Суббота.*

*Деревня Буцевичи, в 4-х верстах от штаба полка, расположившегося в м[естечке] Комай. Это наше новое место стоянки. Переход был очень утомительный и неприятный вследствие дурной погоды. Разместились мы очень скверно, деревня настолько бедна, что ничего решительно нельзя достать. Фуража нет.*

Гэтыя запісы цудоўна адлюстроўваюць становішча, у якім знаходзіліся беларускія сяляне перад самым нападам Напалеона. Даведзеныя да жабрацтва арандатарамі, нанятымі расійскімі прадпрымальнікамі. Апошняе, што заставалася, забіралася ваеннымі рэквізіцыямі. Гэта тлумачыць тое, чаму пры ўступленні французскага войска беларускія сяляне разам з французамі зацята «лупілі» двары расійскіх памешчыкаў і іх памагатых. І ўвогуле, выкарысталі пачатак гэтай вайны для актыўнага супраціву прыгнятаючым іх памешчыкам. Як адзначаюць сучаснікі падзей, у прыватнасці, брыгадны генерал Вялікай арміі Дэдэм дэ Гельдэр, інтэндант Віцебскай правінцыі А. Пастарэ (чыноўнік французскай акупацыйнай адміністрацыі), расійскі партызан Г. Х. Бенкендорф, уся Беларусь (тэрыторыі Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губерняў) была ахоплена антыпрыгонным пажарам, сяляне ўзбунтаваліся супраць сваіх памешчыкаў паўсюдна.

Можа ўзнікнуць заканамернае пытанне: калі нашыя сяляне былі супраць расійскай улады, то наколькі пазітыўна склаліся іх адносіны с французамі? Спачатку, пакуль у французаў хапала сваіх рэсурсаў і таго, што яны нарабавалі ў маёнтках расійскіх землеўладальнікаў, беларускія сяляне ставіліся да іх добра. Тым больш, што французы дазволілі ім таксама рабаваць расійцаў. Акрамя таго, хадзілі чуткі, што, маўляў, Напалеон скасуе прыгон. Зразумела, што ўсё гэта схіляла беларускае сялянства на бок французаў. Але ў самым пачатку рускай кампаніі Напалеону фатальна не пашчасціла. Па нейкіх нявызначаных пакуль што прычынах вялізная частка

ад загатаванай для харчавання жывёлы раптоўна загінула. Роўна як і коней. У якасці версіі прапаноўваецца тое, што ў першыя дні наступлення Напалеона адбыліся вельмі рэзкія перапады тэмпературы паветра, пра што можна знайсці ўскосныя сведчанні ў тым жа дзённіку Пушчына:

*18 июня. Вторник.*

*Переход от Свенцян в лагеря у Давгелишек. Выступили в 4 часа утра. Шел дождь, пронизывая. Путь тяжелый, мы шли беспрерывно в продолжении 11 часов. В полку 40 человек заболело и один умер.*

Калі не вытрымлівалі і паміралі нават людзі, то, верагодна, жывёла гінула сапраўды ў вялікай колькасці. Але што б ні адбылося, у любым выпадку ў сувязі з гэтай падзеяй праз кароткі час запасы французаў скончыліся. А на той час яшчэ не існавала такога развітага транспарту, каб можна было хутка перакінуць з Заходняй Еўропы ўсё неабходнае для забеспячэння агромністай на той час арміі — больш за 400 тысяч чалавек. І французам не заставалася іншага выйсця, як павялічыць памеры рэквізіцый ад беларускіх сялян (і гэта ўжо пасля таго, як сялян «выціснулі» арандатары і расійскія вайсковыя рэквізітары), ад чаго апошнія былі яўна не ў захапленні. Другую магчымасць змяніць стаўленне беларускіх сялян да сябе на пазітыўнае — вызваленне ад прыгону — Напалеон таксама не спяшаўся выкарыстоўваць. У выніку беларускія сяляне зразумелі, што французы — гэта такія ж самыя рабаўнікі, як і расійскія гаспадары. Таму цяпер супраціў беларускага сялянства накіраваўся ўжо і супраць французаў.

Які характар насіў гэты супраціў? Выключна сітуацыйны і спарадычны. Па меры неабходнасці, у выпадку, калі трэба было ў французаў адбіць сваю рэквізаваную маёмасць (як прыклад — выпадак у нашай вёсцы Лодасі). Іншымі словамі, у сялян у гэтай вайне зацікаўленасці былі выключна матэрыяльныя. Асуджаць іх за гэта будзе некарэктна. Па-першае, для таго, каб зразумець, што трэба

бараніць не толькі сваю асабістую маёмасць, але і сваю краіну, трэба мець дастатковае інтэлектуальнае развіццё, якога ў тагачасных беларускіх сялян па вызначэнні быць не магло. Як і ў сялян іншай краіны, бо трэба нагадаць, што ў пачатку 19 стагоддзя тыя ж самыя французкія сяляне таксама не вызначаліся вялікай грамадскай культурай. Як прыклад — раман Анарэ дэ Бальзака «Сяляне». Іх агульныя ўяўленні аб навакольным свеце мы ўжо добра вызначылі з дапамогай Э. Ялугіна. І, па-другое, нельга забываць аб тым, якія страшныя войны ўжо перажыў беларускі селянін. Таму той факт, што беларускія сяляне змагаліся выключна за сваё фізічнае існаванне, не важна супраць каго, тлумачыцца як і агульным узроўнем развіцця тагачаснага сялянства, так і той канкрэтнай гістарычнай сітуацыяй, у якой знаходзілася беларускае сялянства.

Тым больш, што і падчас гэтай вайны, і пасля яе страты насельніцтва таксама былі даволі значнымі. Сяляне гінулі на палях бітваў у складзе варагуючых армій або проста выпадкова трапляючы пад агонь падчас іх сутычак паміж сабой. Акрамя таго, для беларускага сялянства гэтая вайна стала вялікай бядой і таму, што цяпер іх гвалтоўна сталі браць у армію. Трэба сказаць, што ў Княстве Літоўскім сялян ніколі не прымушалі ўдзельнічаць у вайне, гэта было абавязкам выключна шляхты. І сяляне прызвычаіліся, што іх непасрэдным абавязкам з’яўляецца праца на зямлі. Той факт, што беларускія сяляне сталі актыўна ўдзельнічаць у партызанскім руху падчас 13-гадовай вайны, тлумачыцца тым, што расійская акупацыйная армія знішчала ўсіх без разбору, і сялян таксама. Таму партызанскае супрацьстаянне беларускіх сялян расійцам у 13-гадовай вайне з’яўляецца выключна фактам самаабароны дзеля асабістага выжывання (а не нейкіх ідэалагічных памкненняў, бо ў беларускіх сялян іх апрыёры не існавала) і толькі пацвярджае гэтае правіла. Бо ва ўсіх астатніх канфліктах сяляне заўсёды заставаліся збоку. Але ваенная дактрына Расійскай імперыі патрабавала вялікую колькасць жаўнераў у арміі (інакш Расія проста не змагла б

захапіць такія вялізныя тэрыторыі). Таму царская ўлада прымушала ваяваць за свае інтарэсы сялян. І сваіх, і чужых.

Калі глядзець на стаўленне ўлады да падначаленых ёй людзей датычна вайны, то кіраўніцтва ВКЛ да сялян было больш сумленнае, чым урад Расійскай імперыі. Па вялікім рахунку, у якой бы дзяржаве ні жыў селянін, ён усё роўна павінен плаціць дзяржаве падаткі, незалежна ад таго, ці гэта вялікі князь літоўскі, ці імператар расійскі. Больш за тое, як мы ўжо вызначылі з дапамогай дзённіка расійскага афіцэра Пушчына, у расійскай дзяржаве беларускае сялянства стала жыць горш, чым пад уладай мясцовых ліцвінскіх магнатаў. Таму казаць, што войны паміж дзяржавамі вяліся ў інтарэсах народа (каля 70 % ад усяго народа складалі сяляне), мякка кажучы, некарэктна. Насамрэч усе гэтыя войны вяліся за тое, хто будзе збіраць з гэтых сялян падаткі. Беларуская (ліцвінская) шляхта гэта выдатна разумела, таму і не прыцягвала да ўдзелу ў войнах сялян, калі толькі тыя самі не выказвалі такога жадання. У такім выпадку селянін таксама атрымоўваў шляхецтва (менавіта таму ў ВКЛ быў такі высокі адсотак шляхецкага саслоўя ў грамадстве, да 10%). І гэта было сумленна: калі хочаш збіраць з падуладных табе людзей падаткі, то плаці за гэта сваім жыццём. У расійскай жа дзяржаве улада бессаромна выкарыстоўвала жыцці свайго сялянства для заваявання іншых земляў, дзеля свайго асабістага ўзбагачэння, бо сяляне ад усіх гэтых заваёў нічога ня мелі. Не стала выключэннем і вайна 1812 года. Царская ўлада актыўна рэкрутавала ў армію вялікую колькасць сваіх сялян, і па магчымасці з нядаўна акупаваных тэрыторый. На сёння колькасць беларускіх сялян, рэкрутызаваных у расійскую армію, ацэньваецца прыкладна ў 30 тысяч чалавек. Калі ж сяляне пасля перамогі ў вайне паспрабавалі неяк нагадаць, што яны гінулі сотнямі тысяч за інтарэсы цара і што было б нядрэнна, каб ён неяк аддзячыў ім за гэта, то ён адказаў, што ім бог за гэта аддзячыць. Цяжка нешта сказаць на такое нахабства ўлады.

Нават калі беларусы не гінулі наўпрост ад баявых дзеянняў дзвюх армій, то смерць іх даганяла праз голад ад недахопу рэквізаваных арміямі прадуктаў харчавання і ад хвароб, якія былі выкліканыя гэтым голадам. Трэба ўзгадаць, што падчас гэтай ваеннай кампаніі расійскае войска пры адступленні актыўна выкарыстоўвала тактыку выпаленай зямлі. І там, дзе яны паспявалі, гарэлі беларускія вёскі і палі. Сяляне заставаліся без сродкаў для жыцця. Да таго ж трэба дадаць, што той год яшчэ і быў неўраджайным. І калі адступаў Напалеон, то французскія жаўнеры рабілі тое ж самае, але з боку французаў гэта ўжо насіла не тактычны характар, а з'яўлялася актам адчаю. Французы спальвалі ўсе драўляныя пабудовы, каб ратавацца ад нязвыклага для жыхароў цёплай Францыі марозу. Праходзячы праз вёску Канстанцінава Пастаўскага раёна, замярзаючыя французы разбіралі пабудовы жыхароў на абагрэў, так што цэлае мястэчка і нават касцёл з плябаніяй абярнуліся ў попел. Французаў гэта не надта ўратавала — яны ўсё роўна пасля замярзалі або згаралі ад вялікага полымя, бо не мелі ўжо сіл варухнуцца. Але ж пры гэтым і сяляне заставаліся на марозе без жытла.

Па некаторых дадзеных, колькасць насельніцтва Беларусі пасля гэтай вайны скарацілася прыкладна на 20–25 %.

## ШЛЯХТА І МЯШЧАНСТВА

У супрацьлегласць сялянам стаўленне гараджан і асабліва шляхты да Напалеона было намнога лепшым. Маючы нейкую адукацыю, людзі вышэйшых пластоў грамадства вельмі добра памяталі сваю былую незалежную радзіму — Рэч Паспалітую Абодвух Народаў, якая існавала зусім нядаўна. І зразумела, што жыло яшчэ вельмі шмат людзей, якія жылі ў той дзяржаве і марылі аб яе аднаўленні. Вызваліцца ад расійскай акупацыі сваімі сіламі не атрымоўвалася. І паўстанне Касцюшкі даказала, што супрацьстаяць велізарнай

імперыі немагчыма. Адзінае, што заставалася прыхільнікам незалежнай Рэчы Паспалітай, — гэта спадзявацца на якую-небудзь дапамогу з іншага боку супраць Расіі. І Напалеон для гэтай мэты, здавалася, пасаваў вельмі добра.

Настрой вышэйшых пластоў тагачаснага беларускага грамадства трапна адлюстроўваюць наступныя радкі з паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»:

*О, вясна, як ты памятная таму, каму давялося цябе пражыць у той год у нашым краі, як ты квітнела хлебам і травой, як ты блішчэла людзьмі, як ты была поўная падзей і багатая надзеямі! Я бачу цябе да сёньня, як нейкуюмару. Народжаны ў няволі, спавіты ў кайданы, толькі адну такую вясну я пражыў у сваім жыцці.*

Ужо шмат дзе апісвалася тое, як урачыста прымалі Напалеона ў Вільні (праўда, калі пачытаць мемуары француза Каленкура, то надта вялікай радасці не было бачна). І амаль адразу ж пасля яго ўступлення ў межы Вялікага Княства Літоўскага ў шэрагі французскіх войскаў пацягнулася вялікая колькасць добраахвотнікаў са шляхты і гараджан. У цэлым пад сцягі Напалеона сталі каля 30 тысяч беларусаў. Вайна набыла трагічныя рысы грамадзянскай, бо цяпер на палях бітвы беларусы ў напалеонаўскім войску змагаліся супраць беларусаў, рэкрутаваных у расійскае войска.

Не засталіся ўбаку і нашыя Паставы. Пакуль што невядома дакладна, хто менавіта пайшоў з Паставаў да Напалеона. Але такія былі, бо са Свянцянскага павета ў французскае войска пайшло каля тысячы чалавек. А ў той час амаль палова зямель сучаснага Пастаўскага раёна знаходзілася ў складзе Свянцянскага павета. Таму можна сцвярджаць, што пастаўчане таксама ваявалі на баку Напалеона, але ў якой колькасці і хто менавіта, трэба яшчэ высвятляць. Пакуль што дакладныя звесткі ёсць толькі пра тагачаснага ўладальніка пастаўскага маёнтка Канстанціна Тызенгаўза, які пры-

маў непасрэдны ўдзел у вайне. Ён быў прызначаны палкоўнікам 19-га літоўскага палка ад інфантэрыі. І яго сваякі таксама не засталіся ўбаку. Яго старэйшы брат Рудольф на свае сродкі сфармаваў (у Вільні) і ўзброіў конна-артылерыйскую роту. І гэта толькі нашыя Тызенгаўзы. У цэлым жа беларуская шляхта заняла ўсе афіцэрскія пасады ў ліцвінскіх частках французскага фойска. А некаторыя часткі, як, напрыклад, гвардзейскі ўланскі полк, увогуле цалкам складаліся з беларускай шляхты.

Не менш дапамагалі напалеонаўскай арміі і гараджане. Гэта добра адлюстравана ў «Часовай менскай газеце», якая выходзіла ў Менску падчас вайны 1812 года. У ёй гаварылася пра тое, як войскі Напалеона хлебам-соллю ўрачыста сустракала грамадскасць Менску і як радаваліся гараджане ў гэты святочны дзень 8 ліпеня (па старым стылі) 1812 года. У газеце прыводзяцца імёны каля 20 беларусаў, уганараваных вышэйшай узнагародай Францыі— ордэнам Ганаровага легіёна — за гераізм на палях бітваў з войскам Расійскай імперыі. Акрамя таго, газета распавядае аб падтрыманні парадку ў горадзе, аб грашовых і рэчавых ахвяраваннях, сабраных менчукамі ў дапамогу французскай арміі-вызваліцельніцы. У Менску знаходзіўся вялікі гарнізон са шпіталямі і складамі напалеонаўскай арміі.

Цікавае стаўленне да перамены ўлады назіралася і ў Браславе. Мясцовыя жыхары не столькі радаваліся прыходу французаў, колькі сыходу рускіх, бо яны яшчэ вельмі добра памяталі 1794 год, калі яны вырашылі бараніць сваё мястэчка ад атрада расійскіх карнікаў, з-за чаго Браслаў быў спалены. Такія агульныя антырасійскія тэндэнцыі ў шматлікіх беларускіх гарадах выклікалі вялікую незадаволенасць рускіх, якія паабяцалі «предать всё огню и мечу», каб пакараць «палякаў». Цалкам магчыма, што тактыка выпаленай зямлі, якую актыўна выкарыстоўвала расійская армія пры адступленні, часткова была абумоўлена і такімі адносінамі беларускага мяшчанства да расійскай арміі.

Нават у Магілёве, які ўжо працяглы час знаходзіўся пад акупацыяй Расійскай імперыі і праваслаўнае насельніцтва якога ментальна было больш схільнае да праваслаўнай Расіі, стасункі з французамі былі даволі мірныя. Як узгадвае адзін з тагачасных жыхароў Магілёва, французы наогул паводзілі сябе прыстойна і не было наракання на іх, яны не адмаўлялі абывацелям, як у горадзе, так і ў павеце, ставіць да іх сваю ахоўную варту. У дзень бітвы пад Магілёвам, 11 ліпеня, былі нават двое салдат расстраляныя, быццам за пабоі сваіх гаспадароў, якія прынеслі скаргі французскаму маршалу Даву. Крыху горш паводзілі сябе ў горадзе немцы і палякі з французскай арміі, але і ад іх пацярпелі ў асноўным толькі жыды, крамы якіх жаўнеры разрабавалі.

Праўда, у расійскай тагачаснай арміі таксама служыла беларуская шляхта. З заходняй і цэнтральнай Беларусі, якія былі захопленыя Расійскай імперыяй у канцы 18 стагоддзя, яшчэ было мала ахвочых прысягаць цару, бо амаль усе марылі аб незалежнай Рэчы Паспалітай. Але ва ўсходняй Беларусі, якая была захоплена ў 1772 годзе, мясцовае насельніцтва ўжо крыху звыклася з думкай, што Расія — гэта іх краіна і служыць трэба рускаму цару. І ўсходнебеларуская шляхта ўжо крыху ахвотней ішла ў расійскую армію. Таму можна ўпэўнена сказаць, што падчас расійскай кампаніі Напалеона беларусы ўсіх саслоўяў змагаліся паміж сабой у дзвюх чужых для Беларусі арміях. І менавіта гэты факт з’яўляецца самым трагічным для беларусаў.

Не прамінуў гэты лёс і нашае сямейства Тызенгаўзаў. Адзін з іх, Фердынанд (Фёдар) Тызенгаўз, служыў у расійскай арміі. Праўда, яго лёс склаўся больш трагічна, чым у яго сваяка Канстанціна. Ён служыў флігель-ад’ютантам у расійскага імператара Аляксандра І і быў зяцем палкаводца М. І. Кутузава. Але, на жаль, ён загінуў яшчэ ў бітве пад Аўстэрліцам у 1805 годзе. Ці, можа, лёс пашкадаваў братоў Тызенгаўзаў, што такім чынам не звёў іх адзін супраць аднаго ў кампаніі 1812 года ў варагуючых арміях?..

Трэба заўважыць, што трапіўшыя пад прымусам у расійскую армію беларусы не заўсёды жадалі ваяваць не за сваю дзяржаву. Як прыклад, з таго ж самага дзённіка Пушчына:

*20 июня. Четверг.*

*В лагерях между рекой Дисной и Видзею. Наш корпус выступил в 4/2 часа утра. При выступлении мой фельдфебель доложил мне, что 3 солдата-поляка дезертировали.*

Гэтых «палякаў» звалі Венедыкт Драбуліс, Нікадзім Янкоўскі і Якуб Балтынгосе. Мяркуючы па імёнах і па тым, што браць рэкрутаў расійская армія магла толькі з заваяванай тэрыторыі ВКЛ, а не Польшчы, то, хутчэй за ўсё, гэты былі або беларусы, або літоўцы. А палякамі аўтар іх назваў хутчэй за ўсё таму, што ў свядомасці звычайнага расійца каталікамі на тэрыторыі ВКЛ маглі быць толькі палякі (хаця нельга выключаць тое, што на тэрыторыі ВКЛ сапраўды жыў невялікі адсотак этнічных палякаў). І гэта толькі ў адной роце. Можна меркаваць, што і ў астатніх ротах рабілася нешта падобнае.

Канечне, можа быць, што гэтыя салдаты мелі сялянскае паходжанне, але сяляне звычайна вызначаліся некрытычным паслухмянствам. А калі салдаты, рызыкуючы трапіць пад палявы суд, усё роўна вырашыліся на ўцёкі, значыць яны валодалі добрай арганізаванасцю, смеласцю і рашучасцю. Просты селянін зрэдку мог валодаць такімі якасцямі, таму лагічней выказаць здагадку, што гэтыя салдаты былі мяшчанамі або з яшчэ якога саслоўя.

# ФРАНЦУЗЫ

Ёсць сэнс коратка зірнуць і на той бок, з-за якога і пачаліся ўсе падзеі і іх наступствы — на французаў. Напалеон — асоба вельмі супярэчная. З аднаго боку, ён прынёс у Еўропу новы лад жыцця і светаўспрыняцця, якіх патрабаваў новы час, а з іншага— гэта суправаджалася вялікімі ахвярамі і разбурэннямі. Але нас больш цікавяць вынікі ўздзеяння паходу Напалеона на нашыя землі.

Дэфінітыўна можна сцвярджаць адно: яго тут чакалі. Калі беларускае сялянства ставілася да Напалеона адносна індыферэнтна (некаторы час у сялян нават былі невялікія спадзяванні на тое, што Напалеон адменіць прыгон), то вышэйшыя пласты літаральна марылі аб Напалеоне. Ідэйна грамадства былой Рэчы Паспалітай было нашмат бліжэй да Францыі, чым нават суседзі французаў: немцы і італьянцы. Не трэба забываць, што самая першая канстытуцыя ў Еўропе з’явілася менавіта ў Рэчы Паспалітай. І хоць сама дзяржава яшчэ заставалася, па-сутнасці, феадальнай, але тое, што палітычная эліта сама прыняла найпрагрэсіўны ў тагачаснай Еўропе дзяржаваўтваральны дакумент, прытым без усякіх рэвалюцый, казала аб тым, што цяпер гэтая дзяржава адкрывала перад сабой самыя шырокія перспектывы для асабістага развіцця і ўзмацнення. Не дзіва, што абсалютныя феадальныя суседзі-манархіі пасля гэтага адразу ж знішчылі гэтую дзяржаву. Побач з імі ўжо існавала рэвалюцыйная Францыя, а тут яшчэ і Рэч Паспалітая канстытуцыю прыняла. Манархі разумелі, што такія дзяржавы толькі адным сваім існаваннем ужо пагражаюць іх абсалютызму. Такім чынам, Францыя і Рэч Паспалітая станавіліся на адзін бок у супрацьстаянні з астатнімі манархіямі.

Але ў сваіх дзеяннях на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай Напалеон праявіў непаслядоўнасць, што ў выніку і загубіла яго. Гэта быў ужо пачатак 19 стагоддзя. Нягледзячы на шматлікія яшчэ феадальныя рысы, у грамадстве ўжо пачаліся новыя глыбінныя працэсы змянення свядомасці, рэлігійная самаідэнтыфікацыя

ў народаў пачала мяняцца на нацыянальна-этнічную. І хоць на той момант гэта яскрава яшчэ нідзе не праявілася, але ў глыбіні грамадскай свядомасці еўрапейскіх народаў такія працэсы ўжо выспявалі, што потым і вылілася ў рэвалюцыйны выбух «вясны народаў» 1848 года.

Каб Напалеон разумеў гэтыя працэсы, то, магчыма, мог бы выкарыстаць іх у сваіх палітычных інтарэсах. Але на той час не існавала такой навукі, як сацыялогія, і Напалеон у сваіх дзеяннях кіраваўся збольшага сваімі асабістымі ваеннымі поспехамі, чым агульнаеўрапейскай геапалітыкай. Таму яму і не атрымалася максімальна выкарыстаць унутраны рэсурс завяяваных ім краін на сваю карысьць. І асабліва на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, дзе яго чакалі. І калі на тэрыторыі Польшчы Напалеону ўдалося мабілізаваць вельмі значныя рэсурсы для сваёй арміі, то тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага ён ідэалагічна прайграў Расійскай імперыі.

Да гэтага можна дадаць і асабістае светаўспрыняцце Напалеона, уласцівае людзям таго часу, да заваяванага насельніцтва. Трэба памятаць, што Напалеон адносіўся да дзяржаўных уладароў. І ў той час стасункі паміж людзьмі былі такімі, што роўны яму па статусе замежны жыхар (такі ж самы дзяржаўны ўладар) быў бліжэй, чым свой зямляк, але з іншым статусам (напрыклад, французскі селянін), не кажучы ўжо нават пра замежных жыхароў з іншым статусам (беларускі селянін). Адпаведна, і свае карпаратыўныя інтарэсы дзяржаўных уладароў яму таксама былі важнейшыя. Гэтая з’ява — гэта таксама водгук яшчэ сярэднявечнага грамадства, дзе міжнацыянальныя карпаратыўныя інтарэсы яшчэ пераважалі над унутрынацыянальнымі. І гэта вельмі яскрава выяўляецца ў той скарзе, якую Напалеон выказаў у адносінах да Аляксандра I, калі той пачаў праводзіць пры адступленні свайго войска тактыку выпаленай зямлі. Напалеон паскардзіўся, што яго брат (!) Аляксандр вядзе вайну несумленным чынам. Гэтым сваім зваротам Напалеон

паказвае, што, нягледзячы нават на ўзброены канфлікт, варожы яму ўладар дзяржавы з'яўляецца для яго братам. Іншымі словамі, у гарызантальным сацыяльным зрэзе тагачаснага грамадства Напалеон бачыць іншага імператара духоўна бліжэй да сябе, чым якога-небудзь свайго супляменніка ў вертыкальным, нацыянальным зрэзе грамадства. Нешта падобнае нават немагчыма ўявіць у стасунках паміж, напрыклад, Гітлерам, Сталінам і Чэрчылем.

І далей Напалеон працягвае, што ён мог бы таксама пачаць весці гэтую вайну несумленна, напрыклад, абвесціць скасаванне прыгону сялянам на заваяваных тэрыторыях. Гэты выраз яскрава паказвае характар і мэты паходу Напалеона: выключна заваёўніцкія, а не вызваленчыя. Напалеон выдатна разумее, што пры абвяшчэнні адмены прыгону на заваяваных ім тэрыторыях улада Аляксандра I, як і сама Расійская імперыя, можа рухнуць. Банапарту гэта не трэба. Усё, што яму трэба, — гэта толькі перамагчы Аляксандра I, заключыць з ім мір і далей змагацца супраць Англіі, але не знішчаць Расійскую імперыю, карэнным чынам змяніўшы яе ўнутраны лад жыцця для большасці насельніцтва. Таму што Аляксандр I для яго — брат, а сяляне і ўсе астатнія — гэта звычайны выдатковы матэрыял для дасягнення яго асабістых, імперскіх мэтаў. Так што ўсе ягоныя абяцанкі беларускаму сялянству наконт вызвалення ад прыгону былі ўсяго толькі абяцанкамі. Што яшчэ раз даказвае, што ў найбольшай колькасці выпадкаў дзяржава, якой бы яна ні была і які б выгляд ні мела, — гэта зло.

Улічваючы ўсё вышэй напісанае, галоўнымі памылкамі Напалеона на тэрыторыі ВКЛ можна назваць наступныя: 1) Банапарт цягнуў з абвяшчэннем незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, што, адпаведна, ставіла мясцовую эліту ў нявызначанае становішча, хоць яна і дапамагала актыўна французскаму імператару; 2) абяцанні беларускаму сялянству аб вызваленні з-пад прыгону, у які сяляне трапілі падчас расійскай акупацыі, так і засталіся абяцаннямі, што адразу пазбавіла Напалеона вялікіх чалавечых

і матэрыяльных рэсурсаў (што было тым больш трагічна з-за складанасцяў, у якія армія Напалеона трапіла пасля кліматычных анамалій у самым пачатку паходу); 3) уваходзячы на тэрыторыю ВКЛ, Напалеон замест таго, каб абвесціць свайму войску, што яны ідуць вызваляць народы ВКЛ, якія церпяць ад расійскага прыгнёту, папярэдзіў свае войска, што яны ўступаюць на варожую тэрыторыю, што французскія жаўнеры ўспрынялі як дазвол на рабаванне насельніцтва, а гэта лагічным чынам выклікала масавы супраціў мясцовага насельніцтва ў адказ на рабаванні; 4) Напалеон адмовіўся ад свайго першага плана спыніць свой паход толькі на межах ВКЛ, прынамсі, часова, каб замацавацца на тэрыторыі і падрыхтавацца да свайго далейшага кідка праз Расію да індыйскіх калоній Брытанскай імперыі, і дзеля сваіх амбіцый рушыў углыб Расіі з яе ўжо варожым да яго насельніцтвам і непадрыхтаваны да халоднай зімы.

Але гэта ўжо цяпер, маючы перад сабой усю гістарычную перспектыву развіцця падзей, можна дакладна вызначыць усе прычыны паражэння, на першы погляд, непераможнай арміі Напалеона. На той час французскі імператар прымаў рашэнні, не ведаючы спецыфікі тых або іншых народаў, дынамікі іх развіцця і іх патрабаванняў. Таму цалкам лагічна тое, што калі выкарыстоўваць адны і тыя ж прыёмы ў розных краінах, то і вынікі будуць розныя, што гісторыя і даказала. Бо да кожнага асобна ўзятага народа і падыход павінен быць выключна індывідуальны.

# ВЫНІКІ

Падсумоўваючы тую інфармацыю, што мы тут разгледзелі, можна зрабіць наступныя высновы.

1) Ні ў якім разе ўжо нельга аўтаматычна паўтараць былых савецкіх і сучасных расійскіх гісторыкаў, якія называюць ваенную кампанію Напалеона 1812 года «айчыннай» вайной.

Магчыма, для рускіх гэтая вайна і стала айчыннай. З імі спрачацца няма сэнсу, бо гэта іх гісторыя і яны маюць права называць гэтую вайну для сябе так, як захочуць. А для нас гэтая вайна насіла зусім іншы характар. І таму толькі нам самім вырашаць, як яе называць у нашай гісторыі. Калі меркаваць па тым, што беларусы знаходзіліся ў двух варагуючых войсках і змагаліся адзін супраць аднаго, то вайна набывае элементы грамадзянскай. Але калі мы ўважліва зірнем на стандартную грамадзянскую вайну, то ўбачым, што яна распачынаецца самімі грамадзянамі якой-небудзь дзяржавы на якім-небудзь ідэалагічным або эканамічным грунце. А ў выпадку нашай краіны беларусам давялося змагацца паміж сабой толькі таму, што яны добраахвотна або прымусова аказаліся ўцягнутымі ў супрацьстаянне дзвюх чужых нашай краіне армій і дзяржаў, інтарэсы якіх датычна нашай краіны былі выключна акупацыйна-утылітарныя. Таму класіфікаваць гэтую вайну для Беларусі як грамадзянскую таксама не выпадае. Улічваючы гэта і ўсё тое, што мы разгледзелі ў нашай працы, мы робім наступныя высновы.

2) Для Беларусі вайна 1812 года з'яўлялася звычайным высвятленнем адносін дзвюх буйных імперый на тэрыторыі Беларусі і была для нашай краіны акупацыйнай і рабаўніцкай з абодвух бакоў удзельнікаў канфлікту.

3) У беларускай гістарыяграфіі найбольш мэтазгодна выкарыстоўваць для наймення гэтага канфлікту назвы накшталт «вайна 1812 года» або «Напалеонаўская вайна».

# *Дадатак 1*

## ГІСТОРЫЯ 19-ГА ПАЛКА ІНФАНТЭРЫІ КАНСТАНЦІНА ТЫЗЕНГАЎЗА

Рэкруты ў 19-ты полк пяхоты Вялікага Княства Літоўскага набіраліся з Жмудзі. Полк стаяў у Расяенах. Шэфам палка быў прызначаны Канстанцін Тызенгаўз. Яго заступнікам стаў маёр Антоні Паўлоўскі (Antony Pawłowski) — былы шэф батальёна 17 пп КВ, камандзірамі батальёнаў сталі: Аўгусцін Радвана (Augustyn Radwana) — былы капітан 17 пп КВ, Станіслаў Рымінскі (Stanisław Ryminski) — былы капітан 2 пп КВ, Юліян Горскі (Julian Gorski) — былы капітан 2 пп КВ.



*Партрэт К. Тызенгаўза. Ян Рустэм. Верагодна, на гэтым малюнку палкоўнік Канстанцін Тызенгаўз у 1812 годзе ў мундзіры парадным афіцэрскім КВ*

У снежні 1812 года полк прымаў удзел у абароне Вільні. Потым адышоў у Каралявец, дзе быў расфарміраваны і далучаны да французскай пяхоты.

Палкі літоўскія атрымалі аднолькавыя штандары. Апісанне штандара 19 пп ВКЛ: чатырохкутнік памерам 75 × 75 см з сукна кармазінавага з 4-ма клінамі блакітнымі ядвабнымі. Пасярэдзіне арол у кароне гафтаваны срэбрам і часткова золатам. Угары гафтаваны срэбрам надпіс: 19. Pulk piechoty. Па коле харугва абшыта была срэбранымі фрэдзламі. Дрэўка выканана з дрэва, пафарбаванага на чорнае з залачонай куляй, на якой сядзіць пасярэбраны арол з меднай каронай.

# СТРОЙ

Курткі якой канструкцыі і колераў насілі пехатуры 19 пп ВКЛ, невядома. Жаўнеры атрымалі трафейныя расійскія нагавіцы.

Афіцэры насілі рагатыўкі з жоўтай нумарной бляхай у выглядзе «тарка амазонак», над ёй быў Польскі арол, кіта срэбная, угары чырвоная.



*Канстанцін Тызенгаўз у афіцэрскім строі французскай лінейнай пяхоты ў 1813 годзе*



*Афіцэры 19-га палка пяхоты ВКЛ. Малюнак Гембаржэўскага*




*Рэканструкцыя рагатыўкі 19 пп ВКЛ*

# КРЫНІЦЫ

1. Tomaszewicz, A. Wojsko Wielkiego Ksiestwa Litewskiego w roku 1812 / A. Tomaszewicz // Nasz Czas. — 2006. — № 18.
2. Historia 17 pulku ulanow na tle wojsk litewskich 1812–1814 / Jozef Tyszkiewicz w opracowaniu Dariusza Nawrota i Andrzeja Nieuwaznego. — Gdynia : Armagedon Books, 2004.
3. Nawrot, D. Litwa i Napoleon w 1812 roku / D. Nawrot. — Katowice, 2008.
4. Акты Виленской археографической комиссии. — Т. XXXVII. — Вильна, 1912.
5. Голденков, М. Наполеон и Кутузов : неизвестная война 1812 г. / М. Голденков. — Минск : Букмастер, 2011. — 320 с.
6. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады / В. Швед, С. Данскіх. — Гр. : ГрДУ імя Янкі Купалы, 2006.
7. Сборник Императорского Русского исторического общества. — Т. 128. — Пб., 1909.
8. Часовая мінская газета. 1812 год. — Мінск : В. Хурсік, 2008.
9. Этнаграфічныя матэрыялы І. Драўніцкага.
10. Этнаграфічныя матэрыялы І. Пракаповіча.
11. Ялугін, Э. Ці здымаць шапку «Эрнэсту і Здзіславу»? / Э. Ялугін // Наша слова. — 2012. — № 41. — с. 6.
12. http://bka.forum24.ru/?1-1-0-00000034-000-0-0-1341572
13. http://borodino.ru/download.php?file_id=435&__CM3__CM3
14. http://westki.info/blogs/12953/1812-hod-sobytiia-v-litvie
15. http://www.ceae.ru/Belarus.htm
16. http://www.museum.ru/1812/Library/Agronov1/index.html
17. http://www.museum.ru/1812/Library/kolencur/part03.html
18. http://www.museum.ru/1812/Library/Rs4/index.html
19. vistr-33.blog.tut.by/author/vistr-33/page/23/

# *Дадатак 2*

## ЛЕГЕНДЫ ПРА ФРАНЦУЗАЎ



Анатоль Папоў — вядомы на Пастаўшчыне праваслаўны святар, іерэй, настаяцель Свята-Пакроўскай царквы ў Асінагарадку. З 1980 года нясе ён крыж пастырскага служэння на беларускай зямлі, адстойваючы праваслаўную веру і рускую культуру. Разам з гэтым ён выступае і як дасведчаны краязнаўца, які цікавіцца мінулым і сучасным тутэйшага краю, запісвае і публікуе ў сваім блогу ў інтэрнэце легенды, паданні, гістарычныя апавяданні з вёскі Асінагарадок і яе ваколіцаў. Вось два паданні, якія датычацца падзей 1812 года на Пастаўшчыне.

*Анатоль ПАПОЎ*

## ПАРЫЖ

Каля Асінагарадка на другім беразе рачулкі Дубаўка жыў у фальварку збяднелы пан. Нягледзячы на сваю беднату, пан быў вялікім знаўцам і аматарам віна, а таксама карцёжнай гульні. Гулялі ў карты галоўным чынам узімку ў Запасніках у такога ж пана ў фальварку. Былі выпадкі, калі панства прайгравала ў карты ўраджай азімых на два гады наперад.

Калі асноўныя французскія войскі прайшлі на ўсход, Напалеон Банапарт заначаваў у збяднелага пана ў фальварку каля Асінагарадка. Гэта адбылося з 17 на 18 ліпеня 1812 года.

Фальварак месціўся на ўзвышшы, а ўнізе каля рачулак Дубраўка і Ласькія раслі векавыя дубы.

Ранкам панства выпраўляла дарагога госця. Напалеон, стоячы на ўзвышшы і аглядаючы прыгажосць узыходзячага вялікага чырвонага сонца і туману, што заблытаўся ў кучаравых вяршынях дубоў, падняў

перад сабою рукі і ў захапленні выгукнуў: «На гэтым месцы я пабудую другі Парыж!»

Пан-гуляка сябраваў з мясцовым войтам. Таму ён хутка, без валакіты пераназваў свой фальварак у Парыж.

«Глыбокія спазнанні» ў віннай і карцёжнай справах прымушалі пана паступова прадаваць зямлю.

З часам, прыкладна ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя, каля фальварка Парыж вырасла невялікая, на адну вуліцу, вёсачка. Зразумела, і вёсачку народ стаў зваць Парыжам.

## ПОМНІК РУСКІМ ВАЯРАМ. 1813 Г.

Каля храма Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы ў вёсцы Асінагарадок стаіць помнік рускім ваярам.

Паміж вёскамі Падкраеўшчына (яе ўжо няма) і Крывое спыніліся на адпачынак адступаючыя французскія войскі. Са слоў мясцовых жыхароў, імі камандаваў генерал Маран ці Мурэн.

Ці ёсць магчымасць удакладніць, хто з напалеонаўскіх генералаў кіраваў адступленнем і спыняўся паміж дзвюма названымі вёскамі? Вядома, можна, калі папрацаваць у архівах, але гэта іншы шлях спазнання мінулага.

Мая здагадка: гэта быў Шарль Антуан Луі Алексіс Маран (фр. Charles Antoine Louis Alexis Morand).

Каб даць перадышку адступаючым асноўным войскам, генерал Маран паслаў некалькі соцень салдат насустрач рускім войскам. Сустрэліся французскія ваяры з рускімі каля Гулідаўскага возера. Быў рукапашны бой. Як сведчыць паданне, французскія ваяры, выматаныя адступленнем, стомленыя і галодныя, былі поўнасцю разбітыя…

Генерал Маран загадаў вакол лагера адпачываючых войск арганізаваць засады.

Адна з іх — на правым фланзе — знаходзілася на прасёлкавай дарозе паміж вёскай Малыя Верацеі і сялом Асінагарадок.

З боку сяла Асінагарадок у бок Малых Верацей праскакаў казачы раз’езд. Ён патрапіў у засаду. Ад першых стрэлаў загінулі некалькі коннікаў, у тым ліку афіцэр. Нягледзячы на нечаканы напад, рускія ваяры пасеклі ўсю засаду французаў.

Рускіх пахавалі каля храма Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы ў сяле Асінагарадок.



*Пахаванні каля царквы*

Французы былі пахаваны на закінутых землях каля лесу. У наш час французскага магільніка няма. У часы акупацыі Заходняй Беларусі Польшчай у тым месцы, дзе былі французскія магілы, зямлю зааралі. Па аповедах старых, гаспадар надзелу, разворваючы яго восенню і ўвесну, наўмысна патрошку адворваў ад кургана. З часам французскі могільнік знік.

У гутарках паміж жыхарамі зрэдку і сёння ўжываецца наступны выраз — шарамыга. Шарамыга — гэта французскі салдат, які адстаў ад асноўных войскаў у час адступлення. Яго ўжо ніхто не чапаў, толькі дзеці суправаджалі такога ваяра насмешкамі. Дэзерцір, французскі вайсковец, увесь час прасіў паесці і пагрэцца.

## *Дадатак 3*

## ЦІ НАПАЛЕОН ДАЎ НАЗВУ ПАСТАЎСКАМУ ПАРЫЖУ?

У шматлікіх публікацыях пра вёску Парыж, што на Пастаўшчыне, многія аўтары прыводзяць легенду пра тое, што назву гэтаму паселішчу даў сам Напалеон, калі спыняўся ў гэтых мясцінах у час свайго паходу на Расію. Версія гэта выглядае прывабна і заманліва, улічваючы тое, што Банапарт сапраўды праязджаў праз тэрыторыю сучаснага Пастаўскага раёна. Але на самой справе французскі імператар не меў ніякага дачы-

